

Генадзь Шэмет ➔ 4-5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Грып ➔ 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 07 (3275) Год LXIV Беласток, 17 лютага 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**З 7 па 9 лютага ў галоўнай сядзібе Падляшскай ксёнжніцы імя Лукаша Гурніцкага ў Беластоку (вул. М. Складоўскай-Кюры, 14 А) праводзіўся трэці выпуск літаратурнага фестывалю «Аўтары і кнігі. Падляшскае рэзюмэ». Праграма ўключала ў сябе майстар-класы, сустрэчы з аўтарамі, паэтычны соймік звязаны з турнірам аднаго верша і выставу фатаграфій.**



# Аўтары, словы і кнігі

— Мэтай фэсту «Аўтары і кнігі. Падляшскае рэзюмэ» з'яўляецца прэзентацыя літаратурнай і выдавецкай карты Падляшша, заахвочванне да чытання і прасоўванне пісьменнікаў, звязаных з нашым рэгіёнам, і іх творчасці, — сказала Іаланта Гадэк, дырэктарка галоўнай бібліятэкі Падляшша. — Папярэднія выпускі паказалі, што такія падзеі неабходныя і вельмі папулярныя сярод нашых чытачоў. Беласток горнецца да кнігі. Тым больш, што прадстаўляем творчасць нашых, тутэйшых пісьменнікаў.

У гэтым годзе фестываль доўжыўся тры дні. Першы дзень (7 лютага) прысвечаны быў самым маладым чытачам. Праграма ўключала ў сябе майстар-класы, падрыхтаваныя паэтэсай і аўтаркай дзіцячых кніг доктар Зоф'яй Олек-Рэдлярскай, падарожнікам Марцінам Абалкам, вядомым мастаком і аўтарам коміксаў Тамашом Самойлікам. Аддзел інструкцыі і метадалогіі Ксёнжніцы запрасіў на семінар з элементамі кадавання «Інжынер Цюцьма — гайка, малаток і разумнікі-робаты», створаны на аснове кнігі Гжэгажа Касдэпке і з дапамогай робатаў Photon. Акрамя таго дзеці сустрэліся з акцёрамі Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі і Беластоцкага лялечнага тэатра.

Галоўным пунктам праграмы фэсту быў Паэтычны соймік. У ходзе сустрэчы ўдзельнікі калектыўна параважалі пра ролю і стан паэзіі ў сучасным свеце, прабавалі знайсці адказ на пытанне пра тое, як і ці наогул паэзія функцыянуе ў сродках масавай інфармацыі, а таксама прыглядзеліся новаму нерэгулярніку «ЕРЕА» — літаратурнаму часопісу, які выдае Падляшская ксёнжніца. Сустрэчу вёў праф. Дарыюш Кулеша — літаратуразнаўца з Універсітэта ў Беластоку, прысутнічаў доктар Кшыштаф Кур'янюк — кіраўнік рэдакцыі культуры Польскага радыё Беласток і Юстына Саўчук — галоўны рэдактар часопіса «ЕРЕА». Турнір аднаго верша «Хай жыве паэзія!» вёў малады аўтар, якому сёлета выдаў паэтычную кнігу Фонд «Белая Вежа» з Белавежы. Той дзень скончыўся сустрэчай з пісьменніцай, журналісткай і рэдактаркай Кацярынай Дрогай, якая расказала пра ўплыў на наша жыццё сакрэтаў нашых продкаў. Турнір аднаго верша (другі ў гісторыі фестывальнага Беластока) аказаўся хітом. Трыццаць паэтаў канкуравалі за пальму першынства ў вершаванні. Журы прысудзіла прэмію Малгажаце Сохань за верш «Старая Макавякова». Публіка ўзнагародзіла яе і Марка Дабравольскага за кароценькі верш «здавалася б, выпадкова раскіданыя словы». Многа прыхільнікаў меў таксама твор «Міфы» Барбары Гаральчук з Мокрага. Не меншай цікавасцю карыстаўся ўвесь Паэтычны соймік, у якім бралі ўдзел паэты, раманісты, літаратурныя крытыкі, выдаўцы, перакладчыкі, аматары літаратуры і культуры.


■ Юстына Саўчук і Збігнеў Насядка

Андрэй Сальнікаў з Бельска з Асацыяцыі паэтаў Бельскай зямлі: «Сустрэча мела цікавую праграму, добрая была арганізацыя і дынамічнае правядзенне. Актыўны быў удзел калег паэтаў, рашэнні для будучыні паэтаў з Падляшша. Нашу петыцыю-просьбу ў Маршалкоўскую управу, каб памагла нам у гуртаванні і выдаванні падпісалі ўсе творцы».

Трэці дзень фэсту пачаўся выставай фотаздымкаў пад назвай «Магія Падляшша». Суправаджалася яна прэзентацыяй кніг, выдадзеных на Падляшшы, падрыхтаванай Анджэем Каліноўскім — прэзідэнтам Фонду «Суседзі». Навінкай у гэтым годзе быў паказ, падрыхтаваны Асацыяцыяй «Шукаем Польшчы», дакументальнага фільма «Зэнэк» у рэжысуры Дарыюша Шады-Бажышкоўска — аповеду пра трынаццацігадовага гарцэра Зэнка Бароўскага, застрэленага ў 1943 годзе нямецкім паліцыянтам, калі спрабаваў выратаваць кнігі, канфіскаваныя нацыстамі і захоўванымі ў спецбудынку.


■ Барбара Гаральчук

Фестываль завяршыў шэраг сустрэч з аўтарамі: Магдаленай Нядзведзкай — аўтаркай біяграфічных і гістарычных раманаў (м.інш.«Марыя Складоўская-Кюры», трылогіі «Аповеды пра ангельскі двор» ці «Бона. Змярканне Ягелонаў»), Пятром Нэстаровічам — галоўным рэдактарам штомесячніка „Pismo. Magazyn opinii", аўтарам эсэ, рэпартажаў, раманаў і фантастычных навел (м.інш., апублікаванага ў 2018 годзе рамана „Ерамія"), лаўрэатам літаратурнай прэміі прэзідэнта Беластока імя Веслава Казанэцкага за кнігу «Cudowna» і Наталляй Федарчук-Цесляк — мастачкай (выпускніцай Мастацкага ліцэя ў Супраслі), спявачкай, музыканткай, аўтаркай песень і раманаў: «Як палюбіць гандлёвыя цэнтры» (намінацыя да літаратурнай прэміі Веслава Казанэцкага) і «Ulga».

— Самая вялікая праблема з напісаннем паэзіі ў тым, што вашым пісаннем ніхто не клапоціцца, — сказаў прысутным вядучы сеймік праф. Дарыюш Кулеша. — Я вам, як не пісьменнік, зайздрошчу, што можаце і ўмееце выказаць свет унутры вас і апісаць той, што па-за вамі. Вы хочаце, каб мець важнае значэнне для чытачоў? Калі ласка, пішыце вершы, як Шымборская. Пішыце пра смерць, але без перабольшання, для таго, каб адказаць на найбольш важныя пытанні, зводзячы іх да кавярнянай размовы. Стварыце альтэрнатыўную рэальнасць. Хочаце, каб стаяць тварам у твар з рэальнасцю? Будзьце як Чэслаў Мілаш. Прыкіньцеся, што не баіцеся свету, пішыце з выглядам, што вы самі ў стане справіцца з ім. Не пішыце пра хваробу сваёй жонкі, пра трагедыю свайго сына, будзьце паэтамі, якія даюць рады рэальнасці. Гэта адзіныя два полюсы, якія я прапаную, пытаючыся пра тое, як можна пісаць, каб тое пісанне было важнае, — звяртаўся да сабраных пісьменнікаў і аматараў слова, кажучы пра стан сучаснай паэзіі.

Альманах «ЕРЕА, у новым выглядзе і з новым зместам, прапанавала Юстына Саўчук (яна пісала пра творчасць м.ін. Віктара Шведа):

— Гэта прастора для вас, каб вы маглі сваю творчасць прэзентаваць. Тут ёсць прастора і места для паэзіі і прозы, інтэрв'ю, справаздач з сустрэч, фельетонаў ці рэпартажаў. Сваё места знойдуць тут прызнаныя творцы, але і дэбютанты. У новым нумары многа літаратуры для дзяцей. Тут будуць таксама рэляцыі з дзеянняў праводжаных Падляшскай ксёнжніцай, будуць інфармацыі і пра пераможцаў Турніру аднаго верша. У новым нумары ёсць цікавая апрацоўка пра найбольш актыўныя творчыя суполкі, як м.інш. Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», пра аўтараў, якія пішуць для дзяцей не толькі на польскай мове.

Тэксты можна прысылаць па адрасе: epea@ksiaznicapodlaska.pl.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**





# Падабенства і адрозненні

Ну дзе тая Венесуэла, і дзе Беларусь?! Ну што, здавалася б, можа быць агульнага паміж імі такога, якое дазваляе аналітыкам сцвярджаць, нібыта Венесуэла сёння, гэта Беларусь заўтра?! Маўляў, чым закончыцца ўсё ў гэтай лацінаамерыканскай краіне, тую самую кашулю можна прымяраць і да нас еўрапейцаў. Надта ж шмат, кажуць, падабенства. Хоць і адрозненняў то не так і мала.

Калі пагуляць у старую гульню „знайдзі дзесяць адрозненняў", то паміж Беларуссю і Венесуэлай такіх назбіралася б значна больш чым дзесяць і вельмі хутка. І намнога больш знайшлося б іх, чым падабенства. Але як казаў у культавым савецкім фільме „Месца сустрэчы змяніць нельга" яго легендарны герой: „Дык пісталецік то сто тысяч іншых доказаў пераважыць". Вось і тут так. У сённяшніх Беларусі і Венесуэлы ёсць адно вельмі пікантнае падабенства, якое сто тысяч адрозненняў пераважыць. І падобныя нашы краіны тым, што іх кіраўнікоў на дадзены момант вельмі любіць кіраўніцтва сённяшняй Расіі.

Слова „любіць" у гэтай фразе вядома ж рэжа слых, бо нічога агульнага з класічным значэннем яно на першы погляд нібыта не мае. Ну якая тут любоў, калі, прыкладам, усё часцей кіраўнікі Беларусі і Расіі спрачаюцца на людзях і аніяк дамовіцца не могуць па такіх пытаннях, якія ў астатнім свеце прапісаныя чорным па белым і дадатковых сустрэч ды абмеркаванняў не патрабуюць. Але калі адкінуць персанальныя крыўды начальнікаў краін адзін на другога, іх асабістыя сваркі і нават ультыматумы, а кіравацца біблейскай мудрасцю „па пладах іхных пазнаеце іх", дык нейкая неразгаданая любоў усё ж прысутнічае. Ды і самі яны не аднойчы называлі свае народы брацкімі, падкрэсліваючы тым самым і сваю ўласную ступень сваяцтва адзін да другога.

Ну а пра „плады" дык і шукаць доўга не трэба. Ляжаць на паверхні хоць кампот вары, хоць сырымі еш. І галоўны ды вызначальны плод іх сумеснай дзейнасці гэта той, што ў крытычны момант яны кідаюцца ратаваць адзін другога як сябе любімага.

Вось і зараз кіраўніцтва Расіі з апошніх сіл стараецца як умее дапамагчы Нікаласу Мадуру Марасу, прэзідэнту Венесуэлы з 2013 года, які працягвае сцвярджаць, што застаецца такім і па сённяшні дзень?! Хоць ад таго ўжо адраклася нават Вікіпедыя.

Ну але вернемся да Беларусі і Венесуэлы. Аказваецца ёсць паміж нашымі краінамі і іншыя падабенствы, а не толькі братняя любоў расійскага кіраўніцтва. Тое, што кіраўніцтва гэтых краін не любіць мяняць самога сябе, тут не самае вызначальнае. Аніякае кіраўніцтва нідзе на свеце не ў захапленні ад такіх змен. Адметнымі з'яўляюцца акурат метады і ідэалогія, якія прымяняюцца для недапушчэння такіх змен ва ўладзе і ўвод эканомікі краіны і псіхікі яе жыхароў у глыбокі транс, які афіцыйна называецца стабільнасцю. І ўсімі сіламі захоўваецца сацыялізм як ідэалагічная форма ўтрымання ўлады. Пераможны сацыялізм, як у Венесуэле, ці пабудова сацыяльнаарыентаванай эканомікі, як у Беларусі, тут ужо як у каго лінгвістычныя здольнасці дазваляюць. Сутнасці гэта не мяняе.

Ну а як казала некалі знакамітая Маргарэт Тэтчэр, сацыялізм заканчваецца менавіта тады, калі заканчваюцца чужыя грошы. У Венесуэле яны ўжо закончыліся, і нават уласныя бязмежныя прыродныя багацці ўратаваць сітуацыю не могуць. Бо для існавання сацыялізму грошы патрэбны чужыя. Свае там не працуюць. Ну не толькі грошы, канешне, але і тэхналогіі, і ідэі таксама патрэбныя, але абавязкова чужыя. Бо сацыялізм сваіх не прадукуе. А капіталісты ўсё больш і мацней аберагаць пачынаюць сваю інтэлектуальную і іншую ўласнасць, і красці ўсё менш дазваляюць нават у імя ідэй міру.

Беларускі лідар неаднойчы ўказваў на гэта свайму расійскаму калегу. Што ж, маўляў, кошты на энерганосьбіты не адпавядаюць паміж нашымі краінамі, ды і нічога не адпавядае. Папярэджваў, што так аднаго за другім усіх хаўруснікаў можна пагубляць. Ну а зараз да тэарэтычных разваг можна прывесці практычны прыклад з Венесуэлай. А тут ужо супраць фактаў не папрэш.

Праўда, у расійскага кіраўніцтва свая логіка. І якую тактыку яно абярэ сёння там, цалкам верагодна прымяніць заўтра і тут. І гэта яшчэ адно падабенства.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Перазагрузка або крок назад

Ідэі як птушкі лунаюць у небе. На жаль, як і ў птушак, адбываецца ў іх працэс абмену рэчывамі. Сублімаваныя лозунгі, пахвальныя мэты, калі не заўсёды, аднак надта часта ператвараюцца ў — вось, калі ласка, прабачце мне за непрыгожае слова — дзярмо. Аплёсквае яно зверху тых, хто адстойваў ідэю, і тых, хто цвёрда ступаў па зямлі.

Перасцярогай няхай будуць усялякія рэвалюцыі. Дзярмо, у якое трансфармуюцца іх вялікія намеры, нязменна абарочвае прыгожыя ў тэорыі намеры ў занядбаны хлеў. Дарэчы, гэта тычыцца не толькі рэвалюцыі як такой, гвалтоўна і беспакарана парушаючай усе натуральныя правы людзей. Падобную асаблівасць маюць усе радыкальныя грамадскія прарывы ці праломы палітычнага ладу, па сутнасці сваёй папуліцкія і антыдэмакратычныя, на аснове ідэалагічнага або палітычнага аўтарытарызму. У рэшце рэшт, рэвалюцыямі ці іх паўзучымі відамі кіруюць людзі, як і ўсе часам упартыя як аслы або гатовыя ўсвініцца для вечнай славы або ўзбыдліцца, каб толькі рэалізаваць свае дробныя праекты. Лепшая ілюстрацыя таго, што адбываецца пазней, калі рэвалюцыйныя ідэі становяцца прыладай у руках канкрэтных людзей, калі персаніфікаваная ў гэты падступны спосаб рэвалюцыя пачынае паглынаць усё, што трапіць пад яе ненаедны дзюбак — архіпрафетычная і вечная «Ферма» Джорджа Оруэла. Хто яшчэ не чытаў гэтую кнігу, няхай паспяшае. Мабыць, у бліжэйшы час будзе яна занесена ў індэкс абсалютна забароненых кніг. Ва ўсёй прасцеючай Еўропе і ва ўсім сучасным свеце. У Польшчы, калі ПіС прыйшло да ўлады, амаль з дня ў дзень вывалаклі яе са школьнага літаратурнага канону. У Расіі сёння яе не здабыць, можа нават толькі таму, што запісаны на яе старонках трыумф оруэлаўскіх вепраў рэальна бачыцца ў пуцінска-алігархічнай усемагутнасці. Падобна ў Венгрыі, Турцыі і многіх іншых краінах. Оруэлаўскае прадчуванне дасягнула высокай хваляй Італіі, трэсца аб мяжу Францыі, паціху прадзерлася праз Атлантыку і плюхаецца штораз мацней у ЗША.

Наступіла своеасаблівая «перазагрузка» пуцей Гісторыі. Пасажырскі цягнік пад назвай «Чалавецтва» атрымаў статус экспрэснага і ў сляпым парыве накіроўваецца наперад на заплечча сваёй Гісторыі. Іншымі словамі, робіць пятлю. Чалавецтвапераджыло шмат рэвалюцый, шмат відных палітычных пераацэнак, якія ініцыявалі яе самыя цёмныя эпохі. Эпохі невуцтва, дактрынальнай напышлівасці, рэлігійнага ці ідэалагічнага цемрашальства. І нічога яны яго не навучылі. Мабыць таму, што сілай «перазагружаныя» добрыя змены, па сутнасці, з'яўляюцца вяртаннем да ідэалізаванага мінулага. Але ніякае вяртанне не праводзіцца па пракладзеных шляхах. І ніколі не спыняецца на ідэалізаваных чалавечай надзеяй станцыях.

Папраўдзе, наш метафарычны экспрэс толькі ілюзорна прэ наперад, таму што на самой справе запусціў супрацьімпэтныя тармазы. Верагодна, вельмі цешыць гэта вядучага ідэолага кіруючай партыі — Права і справядлівасць — прафесара Анджэя Зыбертовіча. У сваім змрочным тэксце пз. «Дэман разнастайнасці» паблажліва апублікаваным у шостым нумары „Wszystko co Najważniejsze" (даступным у інтэрнэце), піша прама:

«Пачаць ад адмовы ад утапічнай ідэалогіі дабраслаўёнай разнастайнасці. Затым запаволіць развіццё тэхнікі шляхам дэсакралізацыі ролі навукі ў сучаснай культуры. Нарэшце ўвесці тэхналагічны мараторый. Толькі ў запаволеным, менш разнастайным свеце чалавечы розум зможа трохі наблізіцца да абяцання Асветніцтва — да рацыянальнага ўпарадкавання свету. Немагчыма? Хіба гэта не самавідавочная ісціна, што калі занадта наблізіліся мы да прорвы, дык павінны зрабіць крок назад?»

Так вось цягнік быццам ідзе наперад, але пуцямі «па пятлі», — дык куды ж ён ідзе? Яго пасажыраў — мабыць, не ўсіх, але, напэўна, шматлікіх з іх — яшчэ цешаць новыя палітычныя і сацыяльныя ландшафты, уяўны клопат пра роўныя магчымасці для ўсіх, для агульнага дабра, без сумневу здзівяць назоў канцавой станцыі — «Гузік». Столькі застанецца ад чалавечых надзей і рэальнасці лепшай будучыні. Як заўсёды, калі не перакінеш над прорвай моцнага мосту, — баязліва адступаеш назад.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Украінцы і беларусы ў польскай гаспадарцы (3)

У гэтым нумары «Нівы» завершым апісанне функцыянавання беларусаў і ўкраінцаў на польскім рынку працы. Аказваецца, зацікаўленасць тэмай сярод нашых чытачоў даволі вялікая і прынесціць, што вельмі важнае, зваротную сувязь. Таксама ад грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія аказаліся ашуканымі ў выніку заключэння працоўных кантрактаў з польскімі працадаўцамі. Нявыплата зарплат гэта самая частая праблема беларускіх гастарбайтараў. Калі завяршаецца тэрмін легальнай працы ці проста візы, трэба абавязкова з'язджаць у Рэспубліку Беларусь. Тады шэфы-ашуканцы гавораць, што ў іх вось здарылася часовая затрымка грошай, але напэўна іх неўзабаве дашлюць разам з запрашэннем на візу і працягненне кантракта. А тут далей усё па вядомым сцэнарыі: ані запрашэння на працу, ані грошай. І зусім нічога не зробіш, калі ты працаваў нелегальна. А калі быў на легальным побыце, то потым у судзе працадаўца часта абвінавачвае пакрыўджаных нібыта ў невыкананні даручаных абавязкаў ці проста ў п'янстве, якое не дазваляла проста заплаціць за нявыкананую працу. Суды, вядома, гэта канчатковы варыянт, якога баяцца замежнікі з Усходу. Проста няма сродкаў, сіл і звычайна надзеі на хуткасць і справядлівасць польскага правасуддзя. Застаецца толькі зацінуць зубы і шукаць больш сумленных фірм.

Беларусы і ўкраінцы з вялікай надзеяй чакаюць пачатку 2020 года, а польскія прадпрымальнікі з трывогай, бо тады ў Нямеччыне мае ўступіць у сілу закон, які дае палягчэнні для працаўладкавання рабочым з-па-за краін Еўрасаюза. Паводле апытанняў аж 60 працэнтаў з паўтара мільёна ўкраінцаў, працуючых у Польшчы, ужо зараз заявіла аб намеры ад'езду ў берлінскім напрамку. Усё рашае просты эканамічны рахунак. У Польшчы мінімальная зарплата складае 14,70 злотых брута за гадзіну, а ў суседзяў за Одрай мінімалка за гадзіну гэта 9,19 еўра, значыць, утрая больш. А кемлівы і ашчадны ўсходнік, нягледзячы на вышэйшыя кошты жыцця і яды, зможа рацыянальна гаспадарыць і адправіць на бацькаўшчыну большыя грошы.

Адток украінцаў можа прынесці бязладзіцу на польскім рынку працы, асабліва ў некаторых яе галінах.На першым месцы маецца тут на ўвазе рынак будаўніцтва. Права да ранейшага пенсійнага ўзросту на практыцы абазначае пераход трыста тысяч грамадзян Польшчы на заслужаны адпачынак. Паводле даных Міністэрства сям'і, працы і сацыяльнай палітыкі пра працаўладкаванне іншаземцаў, у Польшчы ў першай палове 2018 года ў гэтай галіне працавала легальна 146 615 украінцаў і 11 486 беларусаў. Пры нагодзе назаву іншыя мясцы і лікі, дзе адчуваецца недахоп мясцовай працоўнай сілы. І так, у сферы прамысловай перапрацоўкі знайшло працу 259 138 украінцаў і 8308 беларусаў. Значныя колькасці ўкраінцаў і беларусаў працуюць яшчэ ў транспарце і на складах: украінцы — 73 186 і беларусы — 5733 асоб. А ў сферы адміністравання ўладкавалася 115 504 украінцаў і 2537 беларусаў. Што цікава, у галіне гастраноміі і начлежнай базы легальна працавала ў першай палове мінулага года толькі 654 беларусаў і 24 525 украінцаў. Яшчэ даволі заўважнай у статыстычным плане галіной з'яўляецца праца 974 беларускіх і 39 688 украінскіх рабочых у рамонтных, аўтамашынных і маторных фірмах. Падсумоўваючы характар і месца працы, з ліку 692 466 усіх украінцаў пры гэтак званай катэгорыі простых прац апынулася іх 325 979, а з ліку 30 646 беларусаў простыя працы (паводле даных) выконваюць 10 102 асобы.

Калі разглядаю я статыстычныя даныя, маю ўвагу прыцягнула яшчэ адна справа, а менавіта палавы падзел. Тут, у Польшчы, зарэгістраваны 4701 беларусак і 224 829 украінак. Статыстычна ад агульнай колькасці працуючых у нас грамадзян гэтых краін відаць значна большую актыўнасць украінскіх жанчын. А памятайма, што чорны рынак хатніх гаспадынь і апякунак дзяцей і знямоглых з удзелам жанчын з Украіны ёсць адным з найбольш развітых.

Ці ў змозе Беларусь і Украіна спыніць такія патраты чалавечага патэнцыялу? Пытанне складанае і, як здаецца, на жаль у бліжэйшых гадах не пад сілу да выпраўлення на агульнанацыянальных узроўнях.

**Яўген ВАПА**

# Як дзеткі класна адпачывалі ў Гайнаўскім белмузеі



Дзеткі пазнаёміліся з дзейнасцю музейнай бібліятэкі (за вучнямі стаіць бібліятэкарка Віялета Андрасюк)

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы ў сваіх памяшканнях падчас зімовых канікулаў, ад 21 студзеня да 1 лютага, арганізаваў адпачынак дзеткам з Гайнаўкі. Былі гэта перш за ўсё асобы, якія вучацца ў сваіх школах беларускай мове, раней наведвалі Гайнаўскі белмузей і ведалі пра яго дзейнасць у галіне беларускай культуры і паказвання жыцця беларусаў у мінулым. Займалася з дзеткамі бібліятэкарка белмузея Віялета Андрасюк, якая на працягу школьнага года ладзіць таксама іншыя заняткі гайнаўскім дзецям. Вучні і некалькі дашкольнікаў добра гулялі і знаёміліся ў белмузеі з беларускай культурай і нашымі традыцыямі. Наведалі выставы музея, паказвалі свае таленты ў розных галінах і больш даведаліся пра музейную бібліятэку, у якой знаходзяцца беларускія кніжкі і часопісы. Бібліятэкарка запрасіла дзетак, іх бацькоў і апекуноў наведваць белмузейныя мерапрыемствы, выставы і карыстацца бібліятэчным кнігазборам.



Падчас заняткаў дзеткі выконвалі ілюстрацыі да раней прэзентаваных казак

**Удзельнікі музейных заняткаў удала гулялі і адпачывалі**

Падчас зімовых канікулаў вучні перш за ўсё хацелі адпачыць ад заняткаў у школе і цікава пагуляць. Іх апякунка Віялета Андрасюк згадзілася, каб дзеткі таксама прапанавалі свае гульні, якія іх асабліва цікавяць. Былі гэта гульні, якія патрабавалі многа руху. Месцам для такіх гульняў служыла кіназала і канцэртная зала. Вучні хацелі таксама паглядзець цікавыя фільмы.

— Я пазнаёміла ўдзельнікаў адпачынку з беларускімі матывамі на вышываных ручніках і пакрывалах. Вучні выконвалі гэтыя ўзоры і матывы, узятыя з даўніх ручнікоў, з дапамогай пластыліну і пасля паказалі свае працы сямейнікам. Апрача гульняў, якія прапанавалі дзеткі, я запрапанавала колішнія гульні і яны спадабаліся ўдзельнікам зімовага адпачынку ў белмузеі. Падчас заняткаў у канцэртнай зале вучні гулялі ў хованкі. Я наладзіла таксама спатканне з паліцыянткай пра бяспечны адпачынак падчас зімовых канікулаў і бяспечнае карыстанне інтэрнэтам, — распавяла музейная бібліятэкарка Віялета Андрасюк. — Пазнаёміла я ўдзельнікаў зімовага адпачынку з музейнай бібліятэкай. Расказала я пра кніжкі і часопісы, якія ў ёй знаходзяцца і якія можна пазычыць да прачытання дамоў. Удзельнікі нашых заняткаў атрымалі бібліятэчныя абанементы, запаўнялі іх і крыху размалёўвалі, каб былі яны больш цікавымі.

Дзеткам, якія адпачывалі ў белмузеі, вельмі спадабалася пабыўка ў Цэнтры гульняў «Гуля-куля», размешчаным у памяшканні Гайнаўскага белмузея. Вучні там вельмі актыўна праводзілі час з выкарыстаннем прылад прызначаных для гульняў.

— Я расказвала вучням крыху пра гісторыю пабудовы і дзейнасці Беларускага музея і гаварыла, хто яго стварыў і хто арганізаваў яго працу. Наладзіла дзеткам экскурсію па нашых экспазіцыях. Пазнаёміліся яны з назвамі заняткаў і вырабаў рамяства. Вучні цікавіліся, для чаго служылі паасобныя прылады працы і я распавяла ім аб вырабах рамеснікаў і рукадзеллі. Пры нагодзе пабыўкі вучняў на выставах я знаёміла іх таксама з паасобнымі словамі нашай дыялектнай мовы. Многа дзетак, якія прымаюць удзел у занятках у музеі, вучацца ў сваіх школах беларускай літаратурнай мове. Чыталі яны беларускія газеты, часопісы або кніжкі, а я магла прэзентаваць ім фільмы на беларускай мове, — расказвала бібліятэкарка Віялета Андрасюк.

Дзеткам былі арганізаваны адмысловыя мастацкія заняткі — лепку з пластыліну, рысаванне і будаванне хаткі з паперы. Таксама выконвалі ілюстрацыі да казак, якія раней глядзелі. Аднак вучні перш за ўсё вельмі любілі рухавыя гульні.

— Я любіла гуляць у гусей, карову і мулярскую гульню. Калі мы наведвалі выставы, мне спадабаліся там прылады працы, якімі выконваліся ў мінулым розныя прадметы. Пані Віялета завяла нас на выставу, на якой паказана было, як рабіліся розныя вырабы з драўніны, а жанчына-манекен сядзела за кроснамі і нешта такала, — распавядала вучаніца Анна Мароз. — Вельмі цікавай была фотавыстава «Падляшша ў аб'ектыве». Мы там убачылі вялікую фатаграфію з велізарным шарам, цікавым быў здымак з зубрамі. На іншых фатаграфіях была лясная звярына, краявіды і людзі. Цікавай была таксама экспазіцыя алейных карцін, на якой убачыла я прыгожа намаляваны Свята-Троіцкі сабор у Гайнаўцы.

— Зацікавілі нас фільмы, дэманстраваныя ў кіназале. Пані Віялета запрапанавала нам выконваць мастацкія працы на розныя тэмы. Мы ляпілі з пластыліну. Пані дазваляла нам гуляць у гульні, якія мы любім і таму мы тут так радасна праводзім час. Аднак цяпер мы хваляемся, рыхтуючыся да выступлення перад бацькамі, — гаварылі дзяўчаткі і хлопцы.

Выступы дзетак у апошні дзень музейных заняткаў перад сямейнікамі былі цікавымі. Вучні рыхтаваліся да прэзентацыі сваіх здольнасцей і ўмеласцей дома, дапрацоўвалі свае прапановы падчас заняткаў у музеі. Выступілі эмацыйна, а публіка пасля кожнага нумара моцна апладзіравала. Удзельнікі музейных заняткаў займальна спявалі калядкі і свецкія песні,ігралі на любімым музычным інструменце, сваімі аповедамі даводзілі да смеху сабраных, па-акцёрску паказалі практыкаванні па мастацкай гімнастыцы.

— Я рада таму, што ў музеі робіць мой сын Міколка, які тут вельмі актыўна праводзіць час і знаёміцца з нашымі традыцыямі. Тут атмасфера як у нашых сем'ях, дзе крыху з дзеткамі гаворым па-свойму, — заявіла Кацярына Аксэнтовіч.

У канцы зімовага адпачынку ў белмузеі Віялета Андрасюк уручыла яго ўдзельнікам дыпломы, падарункі і паінфармавала, што адпачынак у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы быў арганізаваны дзякуючы фінансавай падтрымцы бюджэту Гайнаўкі.

— Карыстаючыся дапамогай горада, арганізавалі мы зімовы адпачынак, маючы на ўвазе нашы традыцыі і беларускую культуру. Заняткі, якія вяла бібліятэкарка Віялета Андрасюк, былі адкрытымі на дзетак з усёй Гайнаўкі, а таксама на прыезджых асоб, якія прыбываюць у Гайнаўку на час зімовых канікул і адпачываюць у сваіх бабуль. Некаторыя ўдзельнікі адпачынку ў нашым музеі не вучыліся раней беларускай мове, але пазнаёміліся ў нас з беларускай культурай, нашымі традыцыямі і перш за ўсё добра адпачывалі. Раней мы ў час зімовых канікулаў ладзілі тэатральныя заняткі, якія завяршаліся спектаклямі перад бацькамі і бабулямі. Прапанову выступаў дзетак перад сямейнікамі прадаўжаем, — гаварыў дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк. Віялета Андрасюк удакладніла, што падчас зімовых канікулаў у белмузеі адпачывала больш за 20 дзетак.

**Белмузей запрашае наведваць сваю бібліятэку**

— У музейнай бібліятэцы цяпер знаходзіцца звыш 12 тысяч кніжак на беларускай мове. Кожны год нам паступаюць кніжкі ад беларускіх аўтараў, якія жывуць на Беласточчыне. З дапамогай Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве дасылаюцца нам беларускія кніжкі з Беларусі. Выдзяляем таксама ўласныя сродкі на куплю кніжак, якіх нельга атрымаць бясплатна. Атрымліваем беларускія часопісы. Можна ў нас пазнаёміцца са зместам навейшых нумароў «Нівы», але таксама з артыкуламі ў беларускіх часопісах, якія выдаюцца ў Рэспубліцы Беларусь. Наведваюць бібліятэку і карыстаюцца багатым кнігазборам вучні школ Гайнаўшчыны і дарослыя асобы. Бібліятэкарка Віялета Андрасюк ладзіць сустрэчы ў рамках праекта «Кірыліцай пісанае» і арганізуе заняткі вучням, — расказваў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

Віялета Андрасюк удакладніла, што ў белмузейнай бібліятэцы знаходзіцца многа кніжак на беларускай мове, якія могуць зацікавіць дзетак. Апрача вучняў і студэнтаў прыходзяць у музей за кніжкамі старэйшыя чытачы, якія цікавяцца між іншым гістарычнай і этнаграфічнай літаратурай.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

## Не ўсё золата, што свеціцца

На мультымедыйным рынку шмат фірм рэкамендуе свае паслугі. Мая электронная пошта перманентна перагружаная. Цікава, якім спосабам незнаёмцы здабылі мае персанальныя даныя. Усё ж такі з 26 траўня мінулага года абавязвае еўрасаюзны закон аб ахове даных. Ці не так? Але вернемся да справы. 11 красавіка мінулага года патэлефанаваў мне кансультант лічбавага тэлеканала «Польсат», які прапанаваў змену дамовы на тэлевізійныя паслугі. Прыманкай была дзевяцімесячная пастаўка новага пакета без абанемента. Я, зразумела, адказаўся, аргументуючы, што старэчу-пенсіянеру дастаткова пакета «Сямейны» з аплатай 19,90 зл. штомесячна. Не хапае мне адно інфармацыйнага канала TVN-24. «Дык рэкамендую вам тры каналы па суперцане, — ветліва адгукнуўся кансультант. — За адзіныя пяць злотых. Калі дамовімся, дык зразу падключым новыя каналы. Затым месячны абанемент панізіцца на пяць злотых, а пасля прамоцыі будзеце плаціць на пяць злотых больш, г.зн. 25 злотых». «А TVN-24 будзе?» — пытаю кансультанта. «Будзе», — без запінкі пачуўся голас у трубцы з процілеглага боку проваду. Для завяршэння дамовы кансультант паінфармаваў, што размова будзе запісана. Я пагадзіўся. Вечарам гэтага ж дня я змог ужо глядзець тэлеканал TVN-24. Пасля новай дамовы я плаціў абанемент за пакет «Сямейны». Чакаў новага рахунка за люты. І чуць не зваліўся з ног, калі пабачыў, што з мяне патрабуюць сорак пяць злотых. З таго часу пачалася валакіта. 29 студзеня пасылаю пісьмо па электроннай пошце ў офіс кліента лічбавага «Польсата». «Якога пакета тычыцца плата, бо я на павышаную цану не пагаджаўся». Дзень пазней, 30 студзеня адказваюць мне вельмі цьмяна. У сваёй канчатковай заяве ад 31 студзеня я напісаў: «Ні на што я не пагаджаўся. Патрабую для дэталёвага абгрунтавання сваёй верагоднасці даслаць копію запісанай размовы з кансультантам. Калі ў сямідзённы тэрмін не атрымаю пісьмовага адказу з копіяй запісанай размовы, дык прыму станоўчыя меры. Падам заяву павятоваму заступніку спажыўца аб фальсіфікацыі дакументаў лічбавым «Польсатам», абвінавачу таксама ў парушэнні маіх грамадзянскіх правоў і абразе майго добрага імя, не выключаючы патрабавання прынесці мне публічнае прабачэнне ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і ў тэлебачанні». Памагло. Лічбавы «Польсат», каб не скампраметавацца ў махлярстве, не мог прыслаць запісу размовы, бо яна пацвердзіла б маю верагоднасць. У адказе паведамілі мне, што «пасля паўторнага аналізу акалічнасцей справы і ў выніку індывідуальнага падыходу (...) заключаная па тэлефоне дамова прызнаецца несапраўднай». У сувязі з гэтым бакі засталіся пры старой дамове ад 19 верасня 2017 года.

Вось, даражэнькія, як справы маюцца. Дзе не глянеш, ашуканства на кожным кроку. Усялякія прайдзісветы намагаюцца абдурыць добрасумленнага чалавека. Але я не з тых. Пільную сваіх спраў, годнасці і свайго добрага імя. Затым рэкамендую так рабіць іншым. **Уладзімір СІДАРУК**

## ЗАПРАШЭННЕ

Аб'яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-Бы

**Пагаворым пра жыццё і творчасць Ларысы Геніюш**

сустрэча з **Яе ўнукам Міхалам Геніюшам і ўкладальнікам найнавейшай кнігі „Унукам" – Глебам Лабадзенкам з Менска.**

**14.02.2016 (чацвер) 18.00**

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*

# Культурныя межы — бязмежныя

**Генадзь ШЭМЕТ** — кампазітар, дырыжор, мультыінструменталіст, настаўнік музыкі, а таксама вакаліст і лідар легендарнай «Грамады», папулярнай на Падляшшы і на Беларусі. Яго песні спяваюць «Лідар», «Казанова», «Прымакі» і многа іншых гуртоў з Падляшша. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Мазыры на Беларусі. У 1986 годзе закончыў Дзяржаўную кансерваторыю ў Мінску, дзе атрымаў дыплом дырыжора і выканаўцы. Вышэйшую вучобу працягваў у Беларускай акадэміі музыкі ў класе прафесара і кампазітара Дзмітрыя Смольскага, якую закончыў у 1993 годзе. З Генадзем Шэметам размаўляе Юрка Буйнюк.

**Юрка Буйнюк: — У 1988 годзе паўстала Ваша група «Грамада» як рок-група пры тэатры. Дзе Вы зайгралі свае першыя канцэрты?**

**Генадзь Шэмет:** — «Ноч» і «Вярбінка» — гэта першыя песні «Грамады» на вершы Алеся Гаруна ў жанры рок-паэзіі. З гэтымі песнямі мы ездзілі з канцэртамі па Малдове і ў Калінінград. Пазней мы мусілі трошкі дапрацаваць праграму пад «Басовішча». У канцы канцоў на «Басовішча» мы паехалі без двух чалавек, якія сапраўды ігралі рок-паэзію. Далучыліся да таго фінансавыя інтарэсы. Пагналіся яны тады за грашыма, ім не было калі думаць пра музыку ці ўвогуле пра творчасць.

**— Як Вашы выступленні ўспрымалі ў Малдове?**

— Малдова гэта вельмі цікавы край. Вельмі добра нас прымалі, дарылі нам кветкі, віно. Я спецыяльна падрыхтаваўся і навучыўся малдаўскай мове. Памятаю, Аргееўскі раён, у адной вёсцы да людзей гавару па-малдаўску: «Bună seară prieteni dragi» («Добры вечар, шаноўныя сябры»). У натоўпе публікі пайшоў вялікі гул. Кажуць нам, што тут малдаван няма, што гэта ўкраінскае сяло. Сапраўды, Малдова — малы край, дзе жыве шмат народаў. Малдаванцы вельмі цікавы і прыемны народ, які вельмі любіць беларусаў. Аднойчы паехалі мы з групай 24 чалавек з Тэатра Якуба Коласа з Віцебска ў Малдову. Першая частка гэта быў тэатральны спектакль, а другая — канцэртная праграма. Пасля канцэрта падышла да нас загадчыца клуба і пытае, колькі віна прынесці. А мы кажам, каб пасмакаваць. Села яна на матацыкл і прывезла вядро чырвонага віна. Везла памаленьку, каб не разліць. І тым вядром віна дваццаць чатыры чалавекі частаваліся пры вогнішчы цэлы вечар. Так што атрымалася такая прыемная сітуацыя.

**— У 1990-1994 гг. гурт «Грамада» многа разоў выступаў на Беласточчыне, у тым ліку на «Басовішчы». Як успамінаеце атмасферу «Басовішча» ў 1991 годзе?**

— Тады «Басовішча» было навіною. Гэта была новая плынь, людзі збіраліся ў Барыку цэлымі сем'ямі як на свята і адпачывалі, падобна як зараз на «Сяброўскай бяседзе». Гэта было свята і фактычна штораз больш людзей прыходзіла і з Беластока прыязджалі. Прэзентаваная там музыка не абмяжоўвалася да аднаго кірунку, да адной плыні. Я да канца не згодны з тым, што беларуская музыка павінна быць толькі рок. Рок як музыка паўстаў з англійскай музыкі, вядома, на падставе лепшых англійскіх калектываў, а беларусы павінны другім шляхам ісці — і «Уліс», і іншыя беларускія калектывы пайшлі. У Польшчы ў тым напрамку пайшоў «Lady Pank», які тады быў на хвалі папулярнасці як рок-група.

**— Я фанат групы «Lady Pank»...**

— Я згодны, што ад «Lady Pank» вучыліся нашы беларускія рок-гурты. Яны рабілі штосьці сваё ў рок-музыцы. Я нават у 1980-х гадах, жывучы на Беларусі, слухаў «Lady Pank». З часам музыка не такой стала як на «Басовішчы» ў пачатку 1990-х гадоў. Кірункі памяняліся, абы-што сталі іграць, абы-якія кампазіцыі. Тады трэба было быць добра падрыхтаваным.




**— На Радыё Беласток у 2014 годзе Вы сказалі, што рок-музыка гэта англасаксонская, а не славянская музыка.**

— Я і цяпер так кажу. Беларускі рок гэта копія англасаксонскага року. Я вельмі цаню «Lady Pank», які ў рок-музыцы знайшоў сваю славянскую сцежку. У «Lady Pank» і меладызм, і тэксты добрыя. І рытміка, якая найбольш пасуе славянскаму народу, гэта полька, хаця полька гэта чэшскі танец. «Lady Pank» — вельмі добры гурт заходняй традыцыі. Ён першы паказаў як у Польшчы іграць добры польскі рок і для таго я стаўлю «Lady Pank» у першы шэраг пiянераў польскага року, а таксама пiянераў славянскай рок-музыкі. Такое маё меркаванне.

**— У пачатку 1990-х гадоў Вы зайгралі на вяселлі ў Марыі і Мірaслава Тамчукоў у Малінніках. Я памятаю, што тады Вы так голасна гралі, што чуваць было Вас у цэлай вёсцы. Як запамяталася Вам гэтае вяселле?**

— Так, так памятаю. Вельмі добра ўспамінаю. Я — палешук і ў Палессі свае традыцыі. Часы мяняюцца, але палешукі захоўваюць свае вясельныя традыцыі. На Палессі, напрыклад, ёсць каравай, на другі дзень вяселля адпіваюць і мне цікава было пабачыць, як гэта адбываецца ў Малінніках. Генеральна кажучы, вясельныя традыцыі ў Малінніках падобныя як на Палессі. У Малінніках у клубе, дзе мы ігралі, мы думалі, што калі іграем беларускую музыку дык людзі напэўна не поймуць. Мы ведалі некалькі польскіх вясельных песень, знаелі і «Lady Pank», але на вяселлі трэба было іграць песні пад ножку. Мы прабавалі іграць польскую музыку, але значная большасць публікі жадала, каб мы ігралі толькі беларускія песні і не хацелі слухаць другога. Яны ведалі, што мы з Беларусі, дык кажуць: давайце толькі беларускія песні і ўсё.

**— У палове 1990-х гадоў Вы перaязджаеце на сталае жыхарства ў Польшчу. Як Вам запамяталася тадышняя Беласточчына ў музычным і сацыяльным плане?**

— Уласна кажучы на Беласточчыне быў подых свабоды, людзі сталі лягчэй сябе адчуваць. Хочаш тое рабі, хочаш касеты выдавай, толькі фінансава трэба было добра стаяць, каб тое ўсё зрабіць. Тады спонсараў шукаць прыходзілася. Я так агульна кажу, не гавару пра сябе. Раз лепей было, раз горш. У 1990-я гады вальней плыло жыццё. Не скажаш, што ўсё былі лаўры, залатое жыццё. Тады скромна было, але весела. Тады былі людзі больш згуртаваныя, весялейшыя. Цяпер людзі трошку больш замкнутыя ў сабе сталі, не так як калісьці.

**— Першым гуртом на Беласточчыне, з якім Вы сталі супрацоўнічаць, быў «Лідар». Менавіта з ім у 1996 годзе трапляеце ў глыбокую ваду польскай музыкі. Нядаўна Мірaслаў Кавальскі сказаў, што Вы — самы выдатны беларускі кампазітар на Беласточчыне. Як Вам працавалася з гуртом «Лідар»?**

— Скажу ў адным сказе, што гэта была цяжкая праца. Перш за ўсё падарожжы па ўсёй краіне, за суткі мы рабілі 500-600 кіламетраў. Добра, што быў я малады і здароўе яшчэ не падводзіла. Непраспаныя ночы, цэлы час у напружанасці, хваляванне, каб даехаць на час на канцэрт і каб добра атрымалася. Гэта ўжо ўцякло, але добры ўспамін застаўся. Шмат дзе былі, усё бачылі і было цікава. Так што я вельмі добра ўспамінаю і Мірка, і Янка. Мы выступалі і ў Кангрэсавай зале ў Варшаве, і на фестывалях «Disco Polo» ў Калобжагу і ў Аструдзе.

**— Якая паводле Вас розніца паміж беларускай музыкай, якую Вы ігралі з гуртом «Лідар», а беларускай музыкай у Беларусі ў той час?**

— Розніца такая, што ўсё беларускае ў Беларусі было толькі ў маленькім фармаце. У маленькіх колах свядомыя беларусы адчувалі, што

працяг ☞

беларускае слова ці музыка патрэбныя і што яно раней ці пазней уваскрэсне. А большасць жыхароў Беларусі негатыўна ставіцца да беларускасці. Я таксама, калі ўвесь час размаўляў па-беларуску, дык негатыўна прымалі гэта на Беларусі. Была толькі беларуская народная творчасць. Адзінае тое, што засталося, то гурт «Песняры», які адкрыў для беларусаў любоў да роднага фальклору. Ты жывеш на гэтай зямлі і павінен гаварыць па-беларуску, а ў Беларусі вынішчаецца беларуская культура і зводзіцца да таго, што беларуская мова прысутная толькі на вёсках. Іграць і спяваць па-беларуску было быццам заклікам да перамен, якія тады пачаліся. Напрыклад, у Польшчы мы здзіўлены былі, што на Беласточчыне ўсё, што беларускае, прымаецца «на ўра». І па-беларуску танцы, і ўсе песні па-беларуску. Усё беларускае было паважанае і шанаванае. Скажу, што на Палессі ўсё-такі засталіся свае традыцыі, фальклорная і эстрадная музыка памяшаліся. Паўставалі вясельныя калектывы, якія спявалі па-беларуску. А тут, на Беласточчыне, беларуская музыка ўспрымалася вельмі натуральна, быццам ад крыві і косці гэтыя гукі. Тут няма крывоты такой, клеймавання «нацыяналістамі». Вось такое маё ўражанне ад эстрады 1990-х гадоў.

**— У 1997 годзе фірма Green Star выпускае касету «Грамады». Я гэтую касету маю ў сваёй калекцыі. Запамяталася мне песня «Карыта». Яна, здаецца, народная.**

— Я яе запісаў у 1984 годзе ў вёсцы Натачаеўка на Палессі, бліжэй Чарнобыля. Мне здаецца, што пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС жыхароў гэтай вёскі выселілі. Яна мне вельмі ўпала ў душу. Калі я выдаваў касету, мне здавалася, што песні «Карыта» на Беласточчыне ніхто не ведае, але аказалася, што і тут яе спяваюць. Хоць межы на карце стаяць, то культурныя межы бязмежныя. Мне вельмі прыемна, што гэтая песня мае пазітыўны водгук у людзей.

**— У 2006 годзе Вы ўзнавілі «Грамаду». Ці маеце ў планах новыя альбомы?**

— З новай «Грамадой» хацелася далей ісці, але не атрымалася. Аказалася, што ўсе людзі рознага характару і розных перакананняў. Канкрэтызацыі такой як «Грамада» з першага складу няма. Людзі добра навучыліся, але за многа кожны цягнуў у сваю старану. Мы хацелі чатыры праграмы зрабіць, але зрабілі па-ўкраінску і па-беларуску, а астатняе не атрымалася. На жаль, маладыя хлопцы — студэнты і ім трэба было вучыцца. Старэйшыя не хацелі, вядома — жанатыя, сем'і і я лічу, што «Грамада» ўжо завяршыла дзейнасць. Цяпер, шчыра скажу, што ў сувязі з хваробай мне не да таго. У планах я хачу ўваскрэсіць на канале YouTube тыя задумкі, якія пазаставаліся і хацелася б іх рэалізаваць. Я цяпер спрабую тое рабіць. Мне прыемна, што людзі аглядаюць і ацэньваюць. «Грамаду» хацелася б сабраць, але часы не тыя, здароўе не тое.

**— Адносна Вашага дзяцінства. Адкуль у Вас зацікаўленасць музыкай?**

— Вядома, што ад продкаў. Мой прадзед гарманіст быў. Выйдзе ў клубе і грае, і танцуе. Хіба па ім я талент атрымаў у спадчыну. Пазней у школу музычную адправілі. Там быў рэпертуар па баяне — народная творчасць і класіка. Далей можна было ісці на мастацтва або архітэктуру, але я выбраў музыку. І так жыццё мінула. Браты таксама займаліся музыкай, панясце пра музыку маюць. А мае дзеці таксама музыкальныя, але цяпер музыкай не займаюцца. Яны зараз спецыялізуюцца ў іншай сферы, навуковай, маюць працу звязаную з камп'ютарамі. Музыка памагла ім, хутчэй развівала камп'ютарную кемнасць. Аднаму сыну Янку 27 гадоў а другому, Франку — 23. Ужо дарослыя хлопцы.

**— У 1998 годзе працуеце гукарэалізатарам на Радыё Рацыя. Як запамятаўся Вам гэты час?**

— Тады мы ўсе вучыліся. Вядома, хто за што адказваў і тады меркавалася, што гэта будзе інфармацыйнае радыё. Напрыклад мне ў душы асталося тое, што палітыка Радыё Рацыя вельмі добрая. Тут можна паслухаць і рэгіянальныя навіны, і з памежжа. Але самае важнейшае — гэта канцэрт пажаданняў, які рабіў сваю работу. Людзям, якія сядзяць па вёсачках у далечыні ад цывілізацыі, не хапала канцэрта пажаданняў. Генеральна тое, што Рацыя калісьці рабіла і што робіць цяпер, я ўспрымаю пазітыўна.

**— Памятаю як у канцы 1990-х гадоў на Радыё Беласток была гарачая гутарка пра танцавальную музыку ў Польшчы. У гасцях былі «АС», «Прымакі» і Вы. Журналісты перадачы «Пад знакам Пагоні» гаварылі, што дыска-пола гэта ненатуральная музыка, створаная пры дапамозе камп'ютара. Вы казалі, што хаця музыка ляціць пад фанаграму, то аранжыроўку ствараe чалавек і голас чалавека спявае. Зараз вярнулася мода на танцавальную музыку і шторaз больш гуртоў робіць кар'еру тым, што не ўмее зусім спяваць ужывую, а іх вакал можна падцягнуць на камп'ютарных праграмах. Як Вы, чалавек з вышэйшай музычнай адукацыяй, зараз ставіцеся да гэтага?**

— Вядома, што ўсіх не асудзіш, але ў галіне папулярнай музыкі, у шоў-бізнесе павінны быць усё-такі людзі адораныя Богам. Напрыклад, стаяць перад клавішамі і рукі паклаcці на гэтыя клавішы, калі яны выключаны, гэта смешна. Я ведаю, што ім хочацца пабыць і яны хочуць сябе паказаць публіцы. Але за тым усім мусіць стаяць шматгадовае музычнае выхаванне. Мяне ад малога вучылі іграць, запісваць ноты, спяваць — усё гэта ў мяне і братоў ішло з маленства. Хаця ёсць такія таленавітыя людзі, якім адсутнасць музычнай адукацыі не перашкаджае. Яны прабіваюць сабе дарогу і тым самым цешаць людзей сваёй музыкай, сваім талентам і не асудзіш іх. Яны зрабілі добрую работу ў дыска-пола таму, што памагалі ім добрыя аранжыроўшчыкі ці кампазітары. Калісьці дыска-пола было больш рытмічнае, меладычнае. Здараўся і плагіят, сцягвалі ўсходнія рускія і ўкраінскія песні і спявалі па-польску. Павінна быць так, каб на дысках пісалі ад каго песня ўзята. Зараз, слухаючы канал Disco Polo Music, я расчароўваюся ўсё больш і больш таму, што тэксты песень шторaз больш глупейшыя, дурненькія. Рэдка калі хтосьці трапіць у дзясятку і напіша штосьці талковае. Музыка дыска-пола застаецца пад уплывам «italodisco», якое з'явілася ў 1980-х гадоў. Зараз яе стылістыка не змянілася. Можа гэтая музыка ёсць патрэбная. Я не прарок.

**— Вы тут аднесліся да кавераў дыска-пола. Вядома, што ў дзевяноста працэнтах гэта рускія песні. Як Вы ставіцеся да таго, што большасць беларускіх гуртоў сцэны поп-фольк з Падляшша ў свой рэпертуар уводзяць рускія ці ўкраінскія песні. Яны на сваіх дысках пішуць, што словы і музыка народныя або зусім не пішуць і з рускай ці ўкраінскай мовы перакладаюць на беларускую. Што пра гэта скажаце?**

— Я негатыўна стаўлюся да гэтага. Кожная краіна мае арганізацыю, якая ахоўвае аўтарскія правы і бароніць аўтараў. Я лічу, што калі выдаеш свой кампакт-дыск, дык ты павінен адзначыць, хто напісаў словы і музыку ў арыгінале. Кампазітары і паэты, якія працавалі над песняй, уклалі ў яе сваю энергію і нельга чужую энергію падкрадаць. Калі не ведаеш, хто аўтар, дык даведайся. У інтэрнэце даецца інфармацыя пра аўтараў — пра выкананне, кампазіцыю, словы ці аранжыроўку. Я, як аўтар песень, паўстанне новай песні параўноўваю з нараджэннем дзіцяці. Каб паявілася песня дык павінна быць перажыванне, якісьці этап у жыцці чалавека. Можа год, можа пяць, можа дзесяць. Цяпер я больш архівую на канале Youtube. Хачу зрабіць архіў усіх сваіх песень, усёй сваёй творчасці. Змяшчаю таксама свае гітарныя творы.

**— Вы мультыінструменталіст. Ігpаеце на гармоніку, гітары, саксафоне, на клавішных інструментах. Які Ваш любімы інструмент, на якім найлепш ігpаецца і пішацца музыку?**

— Музыка пішацца ў думках і ўнутраным слыхам, але ўжо рэалізацыя адбываецца на інструменце. Часам трэба камбінаваць, каб тое, што ў думках, адпавядала інструменту. Кампазітар мае музычную кухню і прабуе: ці гітару, ці саксафон? А потым аказваецца, што ў гэтай песні патрэбны толькі вакал або адна або дзве гітаркі. Так як з песняй «Час» — там адны гітары. Калі я пазней уставіў сінтэзатар і вакал з хоркамі, па-іншаму песня загучала. У мяне няма любімых і нелюбімых інструментаў. На ўсім трэба добра іграць.

**— Пішаце песні і кампазіцыі для дзяцей. Гаворыцца, што дзеці вельмі асаблівая публіка. Як Вашы творы ўспрымаюць дзеткі?**

— Дзеці дакладна выбіраюць, якая песня ім падабаецца. Астатнія песні адыходзяць на далейшы план і застаюцца ў забыцці. Для маёй дзіцячай кружэлкі матэрыял пісаўся амаль 25 гадоў — з 1988 года. І толькі ў 2009 годзе я яго запісаў. Ну ўсё ж такі знайшліся мае сыны, малайцы. Часам я іх прасіў, часам прымушаў, вучыў як правільна казаць і кружэлку я зрабіў дзякуючы маім сынам. Дзеці добра прымалі мае песні. Калі я яшчэ працаваў у школе, дзяўчынка з Баброўнік выбрала сабе песню «Дванаццаць месяцаў», заспявала і атрымала велізарнае брава. Яна выбрала сама гэтую песню. Аўтару цяжка ацаніць, як дзеці ўспрымаюць. Гэта індывідуальнае ўспрыняцце.

**— Як Вам працавалася над сімфоніяй «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», якой першае выкананне адбылося 25 сакавіка 1993 года?**

— Сімфонію я пісаў больш года. За кожнай нотай павінна быць лагічная думка. Па-першае — веданне матэрыялу, таму, што гэта паводле Караткевіча. Па-другое, у думцы не было «я», а патрэцце — каб яно падабалася людзям, каб чалавек штосьці думаў. Падчас слухання той музыкі павінны быць асацыяцыі, якія прыходзяць чалавеку. Цяжка працавалася, асаблівa цяжкі быў час рэалізацыі. Падчас працы не было аркестра. Першы раз падчас выступлення быў сабраны аркестр. З усёй Беларусі паз'язджаліся музыканты, каб разам выступіць. А колькі высілку гэта мяне каштавала — і рэпетыцыі, і збор людзей, і размяшчэнне ў горадзе, у якім не жывуць. Тады не было ні камп'ютара, ні нічога. Трэба было працаваць над нотнай паперай. Бывалі такія эпізоды, што трэба было выкрэсліваць. Выйшла так, як выйшла, Напрыклад, на YouTube змешчаны толькі ўрыўкі ўзятыя з камеры і гук няякасны, дрэнна гучыць. Я маю запіс і трэба яго выправіць, каб добрыя ўражанні былі.

**— Спадар Генадзь, вельмі вам дзякую за размову. Жадаю Вам хуткага вяртання да здароўя і натхнення да новых кампазіцый.**

— Я адно хацеў бы сказаць, каб усе беларускія музыканты і кампазітары не прадалі сваёй душы люцыферу і былі верны Богу ў сваёй творчасці.

Гутарыў
**Юрка БУЙНЮК**

## Гміна на мінусе

Вясковая Гайнаўская гміна займае плошчу ў 293 квадратных кіламетраў — гэта 18% тэрыторыі Гайнаўскага павета. Яна мяжуе з Белавежскай, Дубіцкай, Чыжоўскай, Нараўчанскай і Нараўскай гмінамі.

Зараз у вясковай гміне пражывае 3937 асоб у 37 вёсках. Тры гады таму яна налічвала 3993 чалавекі. Шчыльнасць насельніцтва складае 13 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 жанчын прыпадае столькі сама мужчын. Мужчыны, калі жэняцца, дык бяруць за жонку маладзейшых за сябе жанчын. Бываюць выпадкі, што на 10, а то і на 15-20 гадоў. У Гайнаўскай вясковай гміне пераважаюць беларусы — іх 66% ад агульнага ліку насельніцтва.

Да найбольшых вёсак належаць Дубіны — 770 жыхароў, Арэшкава — 364, Ліпіны — 310, Старое Беразова — 268, Навасады — 262, Новае Беразова — 260, Махнатае — 189, Новае Корніна — 165, Барысаўка — 110 і Пасечнікі Вялікія 108. Менш чымсьці сто жыхароў налічваюць: Дубічы-Асочныя — 93 жыхары, Хітрая — 87, Трывежа — 86, Пасталова і Чыжыкі — па 84, Рэпіска — 75, Пуціска — 64, Катоўка — 57, Савіны Груд — 47, Барок — 45 і Васількова — 44, Бельшчына і Сарочая Ножка — па 42, Звадзецкае — 33 і Тапіла — 31.

Малымі пасяленнямі з'яўляюцца Буды-Лясныя (3 жыхары), Галяковая Шыя (4), Дубінская Ферма (6), Скрыплева (13), Сахарэва (15), Пераходы (18), Лозіцы (21), Смаляны Садок (24), Альховая Кладка (27), Выгода (28), Прагалі і Чарлёнка-Лясная (па 29).

Паменшала жыхароў, між іншым, у Арэшкаве на 9, у Дубінах і ў Новым Корніне — у кожнай з іх на 7, у Навасадах на 6, у Махнатым і Чыжыках — у кожнай на 4 ды ў Катоўцы на 3. А вось у вёсцы Пасталова (прыгожае сяло ўзбоч Навасадаў ды на ўскраіне Белавежскай пушчы) колькасць жыхароў павялічылася на сем чалавек.

## Які гарадскі парк

Паўвека таму ў цэнтры Гайнаўкі быў даволі вялікі парк, а ў ім многа перш-наперш ліставых дрэў, між іншым, бяроз, ліп, клёнаў, ясеняў і дубоў. Гэтак было яшчэ недзе да 1962 года.

Ідуць гады і той колішні парк займае ўсё меншую і меншую плошчу. З двух яго бакоў пабудавалі жылыя блокі і офісныя будынкі. Выбралі якраз тут месца і пабудавалі вялікі амфітэатр і новыя сцежкі да яго, не зважаючы на шматгадовыя дрэвы, якія раслі ў парку. Вакол яго перабудавалі ды пашырылі тратуары. Ссеклі ўсе ліпы пры тратуары на вуліцы Арміі Краёвай. Амфітэатр дамінуе над усёй зялёнай прасторай.

З кожным годам сякуць паркавыя дрэвы. Зараз іх усё менш і менш. Курчыцца плошча зелені. Калі 4 лютага гэтага года я быў у гайнаўскім парку, ахапіў мяне жах. Які цяпер той парк? Многа дрэў ды перш-наперш стройныя беластвольныя бярозы і гонкія ліпы ссеклі пры скрыжаванні вуліц Арміі Краёвай, Паркавай і Белавежскай. Пры вуліцы Паркавай засталося восем дубоў (некаторыя з іх — помнікі прыроды са спецыяльнымі зялёнымі значкамі з надпісамі на шэрым шырокім ствале).

Зараз мала тут бяроз, а было іх тут найбольш ды вельмі прыгожых (некаторыя называлі гэтае месца нават бярозавым паркам). Дзе ахова прыроды? Цераз рэдкія дрэвы адусюль навыліт бачны гарадскія высокія будынкі. Гэта ўжо не парк, а ўсяго такі-сякі скверык. Летам затопчуць яго ўдзельнікі Кірмашу зубра або іншых культурна-забаўляльных мерапрыемстваў, калі, як кажуць, звaліцца многа народу. Дзе тады вялікім і малым гараджанам выбрацца на прагулку на свежым паветры? Чаму тут не садзяць ліставых дрэў, у тым ліку шляхетных гатункаў і дэкаратыўных кустоў (іх тут вельмі мала)? Чаму забылі пра гэта? Летам няма тут кветак. Вось які недагляд, а мо скупасць гарадскіх улад.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Чакаем беларускай дыктоўкі!



У Беластоку так прынята, што Дзень роднай мовы, 21 лютага — гэта беларуская дыктоўка ў праваслаўнай школе. Поспех конкурсу, які вядзецца тут з 2013 года, напэўна залежыць ад падыходу да граматыкі. У школу ідзем, каб навучыцца пісаць і чытаць. Усе іншыя дзеянні, як спевы, пячэнне пірагоў ці вышыванкі, могуць паспрыяць галоўнай ідэі. Самае цікавае, што вучні з беластоцкай праваслаўнай школы не баяцца граматыкі і масава прыступаюць да беларускай дыктоўкі. І гэта ўжо з наймалодшых класаў.

У гэты раз арганізатары прадбачылі дыктоўкі для малодшых і старэйшых груп школьнікаў. Таксама дыктоўку напішуць віпы: беларускія паслы, журналісты, старшыні аб'яднанняў, аніматары культуры. Традыцыйна ўжо прыедуць сябры з Нарвы і беластоцкай Гімназіі № 7. Верагодна, спісак канкурсантаў папоўняць дзеткі з Залук і сябры з Берасця, якія супрацоўнічаюць з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія. Для ўсіх прадбачаны ўзнагароды, пачастунак і мастацкія выступленні.

Галоўная арганізатарка, настаўніца Іаанна Марко, не хацела нам выявіць сёлетніх тэм. Але з размовы мы зразумелі, што яны будуць кранаць падляшскіх месцаў і асоб, звязаных з праваслаўем. Упершыню прамовяць таксама пісьмовыя дасягненні вучняў школы.

Ну, цікава-цікава!

«Ніва», якая ад пачатку трымае медыйны патранат над мерапрыемствам, таксама выставіць сваіх «канкурсантаў» і традыцыйна назначыць узнагароды. Так што ўсё ў вялікай напружанасці і спадзяваннях на перамогу чакаем сёмай па чарзе беларускай дыктоўкі.

ЗОРКА

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Агрэст і ідыёт

Памылкі — людская рэч. Асабліва ў наш час, калі свае думкі мы складаем на аснове карцінак. Усё, што прыгожае і каляровае, здаецца нам добрым і карысным. Праўда, бываюць такія супадзенні, але ж пры кожнай нагодзе варта пакарыстацца розумам.

Наша чарговая гісторыя падкажа, як пазбягаць дурных меркаванняў і безнадзейных выбараў.

Вось нейкі ідыёт высек кусты агрэсту, бо яны з выгляду напаміналі яму крушынавыя кусты. А агрэст выставіў калючкі і кажа ідыёту:

— Няшчасны дурніца, дрэвы і кусты трэба пазнаваць па пладах, а не па іх знешнім выглядзе!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Магда Драздоўская,
школа ў Міхалове

## Каханне

Каханне дзіўная справа.
Яно — плач і забава.
Калі ты яго пачуеш,
Тады навокал усё чуеш.
Каханне адкрывае сэрцы,
Каханне напаўняе сэрца.
Можа яно і мяне спаткае,
Ды я ад яго не ўцякаю...

## УВАГА КОНКУРС! № 07-19

**Сядзяць кошкі,
супраць кожнай кошкі па тры.
Колькі было разам?**

**……**

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 3 сакавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 3: снег.**
**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Наталля Ніканюк, Габрыеля Красько, Давід Сурэль з Арэшкава, Вікторыя Якімюк, Оля Хіліманюк, Мая Тапалянская з Нарвы. Віншуем!**

*Максім Багдановіч*

# Зорка Венера

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.

З гэтай пары я пачаў угля́дацца
У неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае;
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час.

Буду ў далёкім краю я нудзіцца,
У сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.

Глянь іншы раз на яе, — у расстанні
Там з ёй злём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

РАЗМАЛЮЙЦЕ!



# Маляванка на «Валянцінкі»

Беларусы часта спрачаюцца наконт святаў кахання:

— Ці трэба нам адзначаць «Валянцінкі», ці гуляць на «Купалле»?

Верагодна, гэтая спрэчка будзе існаваць да канца свету і кожны адказ будзе мець сваіх прыхільнікаў. Найперш таму, што ўсе мы марым і думаем пра каханне круглы год, зімой і летам. Беларусы гэтае пачуццё найчасцей спалучаюць з вясной і квітнеючымі садамі, з цёплымі ночкамі, зорным небам, вогнішчам, купаннему крышталёвых хвалях рэк і азёр. Усё гэта занесена ў песні, вершы, карціны і сямейныя фотаальбомы.

«Валянцінкі» прыйшлі да нас адносна нядаўна з Амерыкі. Яны прыгожыя і непаўторныя на свой спосаб. У гэты дзень пішам прызнанні на картачках з сэрцайкам любімай асобе. Славянскае «Купалле» гэта найперш гульні пры вогнішчы і пошукі чароўнай папараці-кветкі.

Беларусы, пры цэлым сваім лірызме, вельмі часта паўтараюць адну памылку.

Тут хочам звярнуць увагу, што ў сучаснай беларускай мове словы ЛЮБОЎ і КАХАННЕ не супадаюць. Любоў можа быць да маці і да Радзімы, а каханне — да дзяўчыны ці хлопца. Недарэчна будуць гучаць выразы «каханне да маці», а таксама «каханне да Радзімы» або «каханне да кнігі». Але вельмі дарэчы, калі пра каханне і любоў будзем марыць і думаць не толькі з нагоды святаў, але ўвесь, круглы год!

Сёння прапануем вам маляванку «Каханне» на аснове выцінанкі Ніны Сакаловай-Кубай.

Нам вельмі цікава, якія колеры вы падбярэце для беларускага кахання?

**(Зорка)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 07-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 3-2019:**

Ах, Ян, нюх, няня, кош, некалі, лоб, сініца, перапынак, воўк, пакосы, Нур, сто, аўторак. Нос, порт, леў, норка, неба, насып, яліна, інак, як, ікона, но, сук, шпацыр.

Узнагароды, **наклейкі**, выйгралі **Магда Ваўранюк, Оля Весялоўская** і **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Наталля Нікалаюк, Марыся Варанчук, Габрыеля Красько** з Арэшкава, **Матэвуш Бірыцкі, Габрыель Карпюк, Марк Лаўрашук** з Нараўкі, **Оля Мадзалеўская, Юля Дарпэньская, Марта Петручук** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kielich / Żeby | | | | Mag / Kolejka | | | | Podroby | |
| | | | | | Attache / Zespół | | Wy / Tysiąc | | |
| Las / Park | | As | Agata / Karter | | | | | | i... |
| | | Pi / Kruszyna | | | | | | | |
| | | Ach / Agrest | | | | | | | |
| | Kloszard / Brat | | | | | Jar | | | |
| | | | | | Wyczesana wełna | | | | |
| Kret | Mer | | | | Re / Niewolnik | | | | |
| | Kapłan | | | | | Ar | | | |



# Грып

Дабраўся да мяне грып. Справа сур'ёзная, жарты набок. 29 мая 1918 года жыхар Нью-Йорка Фрэдэрык Трамп у ходзе шпацыру са сваім сынам Фрэдам пачуўся дрэнна, вярнуўшыся дахаты лёг у ложак, а ў наступны дзень памёр. Можа пра гэтага чалавека не было б занадта вядома, як і пра мільёны нябожчыкаў 1914-1920 гадоў, калі б не тое, што амаль сто гадоў пазней ягоны ўнук Дональд стаў амерыканскім прэзідэнтам. Спачатку было меркаванне, што Фрэдэрык захварэў запаленнем лёгкіх, але пазней высветлілася, што дабраўся да яго грып...

Дарэчы, тагачасны грып не быў ардынарны, быў гэта найбольшы прыступ гэтай хваробы бадай за ўсю гісторыю. Дакладна невядома, з чаго пачалася тая эпідэмія, якая лютавала ў 1918-1920 гадах і якая пакінула па сабе больш пакойнікаў чым амаль паралельная ёй Першая сусветная вайна. Мяркуецца, што ў яе выніку ва ўсім свеце заўчасна памерла нават каля ста мільёнаў чалавек.

Дарэчы, у той час пра тую пошасць таксама нямнога было вядома, бо ў ходзе сусветнай вайны ўсе інфармацыі былі падцэнзурныя, у тым выніку і эпідэміі. Яны затойваліся ва ўсіх тады ваюючых дзяржавах. У Першай сусветнай вайне не брала ўдзелу Іспанія, і ў іспанскай прэсе шырока інфармавалася пра яе дасягненні. І ўзнікла такое ўражанне, быццам той грып лютаваў толькі ў Іспаніі, таму тую эпідэмію і назвалі іспанкай.

Лячыцца ад гэтай хваробы не надта проста. Калі некалькі гадоў таму прыхварэў я, лекарка адмовіла мне антыбіётыкаў, рэкамендуючы цёплую пасцель, вітамін С, вапну і паласканне горла соллю. І гэтае лячэнне спрацавала. Сёлета то я нават не схадзіў у амбулаторыю, прымяняючы ранейшую рэцэптуру, але паколькі аздараўленне зацягвалася, прыйшлося падацца на абследаванне, у выніку якога лекар выпісаў мне таблеткі для смактання, якія дзейнічалі на мяне без энтузіязму, але ў правільным напрамку. Адчуваю, што крыху папраўляюся...

Можна ў маім выпадку гаварыць пра лячэнне, рэкамендаванае амерыканскім публіцыстам Гербертам Шэлтанам, які меркаваў, што гарачка, запаленне, кашаль не патрабуюць ніякага вонкавага ўмяшальніцтва. Паводле яго трэба гэтым праявам хваробы даць поўную волю і яны выканаюць сваю работу; нельга перашкаджаць прыродзе...

Вірус грыпу ў першую чаргу атакуе клеткі дыхальных органаў, а пасля разносіцца па ўсім арганізме. Арганізм распазнае небяспеку і выпрацоўвае абарончыя меры. Атака віруса за двое сутак накідваецца бліцкрыгам на арганізм, а яго выдварэнне самім арганізмам доўжыцца некалькі тыдняў.

Ужо французскі пісьменнік Мальер, які нарадзіўся амаль чатыраста гадоў таму, сцвярджаў, што людзі паміраюць не ад хвароб, а ад лякарстваў. Пра гэта можна таксама наслухацца, седзячы ў пачакальнях да лекараў, ды не толькі ў пачакальнях. Пажылыя людзі вельмі часта абсуджаюць менавіта свае дачыненні са здароўем, а больш дакладна, са сваімі хваробамі. І многія з іх, аказваецца, „больш" ведаюць ад сваіх лекараў. Асабліва цяпер лекары наракаюць на пацыентаў, якія недзе ў інтэрнэце знаходзяць цудоўныя сродкі ад сваіх клопатаў. Толькі не ўсім тым інтэрнэтным „знаўцам" вядома, што кожны арганізм асаблівы — няма аднолькавых. Гэта праяўляецца не толькі ў вонкавым выглядзе, але і ва ўнутранай канструкцыі кожнай асобы. Дарэчы, у лістоўках, якія цяпер далучаюцца да большасці лякарстваў, прысутнічае інфармацыя, хто не павінен тых сродкаў прымаць. Хваробы не эгалітарныя, яны на свой лад элітарныя; тое ж самае можна сказаць і пра лякарствы.




Славуты сучасны бразільскі пісьменнік Паўлу Каэлью заўважыў, што медыцына дасцігла такога прагрэсу, што зараз па сутнасці няма ўжо здаровых людзей. А старажытнарымскі пісьменнік Пліній Старэйшы тады ўжо заўважыў, што чалавек сам не ведае, што яму карысна.

Была ў пачатку згадка пра Фрэдэрыка Трампа, які памёр у выніку іспанкі. Але не толькі ён. Крыху пазней за яго ў лік ахвяр тае эпідэміі былі прылічаны Франсіска і Ясінта Марто, якім у маі 1917 года ў Фаціме аб'явілася відзеж Багародзіцы; Франсіска памёр у красавіку 1919 года, Ясінта ў лютым 1920 года. Яна заклікала дзяцей (ім было па дзевяць і сем гадоў) да малітвы за вяртанне грэшнікаў на шлях набожнасці. Магчыма, што наступіўшая неўзабаве пасля гэтага эпідэмія і была боскай карай за ўчыненыя людзьмі грахі. Зыгмунт Глогер: „Główną przyczynę moru upatrywano w gniewie Bożym za grzechy ludzkie. Jeden tylko Śleszkowski, zacięty wróg Izraelitów, za czasów Zygmunta III utrzymuje, że Bóg zsyła „powietrze" jako karę za protekcję okazywaną Żydom przez szlachtę i magistraty. Wszyscy jednak w bliższych określeniach upatrują przyczynę zarazy morowej w zepsuciu powietrza. Abraham Wolff powiada, że wiadomo z dziejów, iż mór nigdy nie powstał pierwotnie w Europie, ale bywał zawsze przyniesiony z innych części świata, że kolebką jego jest Egipt, z którego zwykle dostaje się do Stambułu a stamtąd szerzy się po Europie. W Egipcie zaś wybucha dlatego, że po wylewach Nilu pozostaje wielka ilość szlamu i robactwa, które, gnijąc w czasie upałów, zarażają powietrze „zgniłymi waporami". Mróz „zgniliźnie jest przeciwny" i dlatego to choroba w zimie całkiem zanika lub znacznie słabnie. Gdzie mór już się ukazał, tam zaraza przenosi się przez odzież, bieliznę i inne przedmioty po zmarłych a nawet przez „weźrzenie" chorego połączone z obawą zarazy. Ostatnia wreszcie z przyczyn, wymieniana przez autorów wszystkich trzech stuleci, wyradza się w samym człowieku skutkiem używania zepsutych pokarmów i złej wody. I oto występuje zwykle mór po głodzie, „albo kiedy ludzie, smakowi swemu folgując, rzeczy grubych, sprosnych używają". W domniemanych przyczynach moru astrologia grała także niepoślednią rolę. Na mniej obeznanych z jej tajnikami sprawiały większe wrażenie zjawiska widome, np. zaćmienie słońca, komety, meteory, które, zdaniem ówczesnych, nigdy nie wróżyły nic dobrego. Nawet ci, którzy nie wierzyli, aby kometa lub meteor mogły wywołać zarazę, z ukazania się ich wnosili, że powietrze stało się nienormalnem, a stąd więcej do przyjęcia zarazy morowej skłonnem. Do zjawisk, które uważano za przepowiednie moru, należały: mgła częsta, nadmiar deszczów, wiatry z południa i wschodu, grzmoty w styczniu, niezwykła obfitość gadów, owadów i robactwa, ryby w wodzie i ptaki, w locie zdychające, wylewy wód, ucieczka wróbli z wiosek i t. d."

Нельга ў гэтым месцы забываць і пра лютуючую ў час іспанкі вайну. Даўней немцы заўважылі, што грып паяўляецца ў зімовы перыяд, таму яго вінаўнікам палічылі соленую рыбу, якая была важным складнікам іх зімовага харчавання. Але ў той час пераважала агульнае меркаванне, што гэта па боскай волі; на шматлікіх крыжах у нашых тутэйшых вёсках прысутнічаюць прашэнні захавання іх жыхароў ад „паветра", бо так даўней называліся ў нас эпідэміі... У ходзе эпідэміі 1890-1892 гг. нямецкі лекар Рыхард Пфайфер меркаваў, што грып разносяць бактэрыі, а ў 1931 годзе амерыканец Рычад Шоўп сцвердзіў, што грып выклікаюць вірусы. Пазней былі акрэслены розныя разнавіднасці грыпозных вірусаў.

Лічыцца, што першая хваля эпідэміі іспанкі пачалася вясной 1918 года ў Форце Рэйлі ў ЗША. Адтуль яна запар з амерыканскімі салдатамі, што высылаліся на вайну, пранікла і ў Еўропу, найперш у Францыю, дзе разгружаліся амерыканскія караблі. Другая хваля ўспыхнула ў жніўні 1918 года, адначасна ў Амерыцы, Афрыцы і Еўропе. Найбольшае спусташэнне выклікала яна на фронце і ў лагерах, адкуль распаўсюджвалася на цывільнае насельніцтва. Трэцяя хваля ўспыхнула ў пачатку 1919 года. Грып быў таксама адной з галоўных прычын смяротнасці ў польска-бальшавіцкай вайне 1920 года. Эпідэмія ахапіла не толькі нашу Еўропу, яна лютавала таксама ў Індыі, Інданезіі, Японіі, ціхаакіянскіх выспах, Іране і іншых краінах.

Эпідэміі грыпу ўзнікалі і раней і лютавалі яны з рознай інтэнсіўнасцю і па-рознаму былі фіксаваны ў хроніках. Першыя звесткі пра хваробу, якой сімптомы супадалі з грыпознымі, зафіксаваў старажытнагрэчаскі лекар Гіпакрат у 412 годзе да н.э. Еўрапейскія хранікёры фіксавалі грып па некалькі разоў у стагоддзе з Сярэднявечча па навейшы час. За апошнія дзесяцігоддзі бывалі розныя названні грыпаў: азіяцкі, ганконгскі, свіны, птушыны...

Хацелася б, каб было нейкае такое лякарства ад грыпу, што возьмеш і хвароба мінае. Ёсць сродкі, якія прыцішаюць сімптомы грыпу, але толькі на нейкі час. А арганізму хочацца дапамагчы... Анекдот: звоніць да лекара малады чалавек і паведамляе, што ягоны дзядзька захварэў. Лекар зазірнуў у свае картатэкі і адказаў, што той дзядзька любіць прыкідвацца хворым і ніякія лекі яму непатрэбныя. Пасля нейкага часу лекар, аднак, пацікавіўся сваім хворым. У адказ атрымаў інфармацыю, што той хворы прыкідваецца мёртвым.

З грыпам няма жартаў. Калі да яго адносіцца без належнай увагі, можа ён пакінуць па сабе складанасці, з якімі самому арганізму будзе не па сілах справіцца. Найлепш не хварэць. Але калі за чалавекам цягнуцца розныя грахі...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

***Жаночая паэзія „Белавежы”, літаратурнага аб’яднання беларускіх пісьменнікаў Польшчы, якое сёлета адзначыла сваё шасцідзесяцігоддзе, усё ж мала вядомая чытачу. А гэта не адзін дзясятак адметных талентаў. Прапаную чытачам „Нівы” сустрэчу з творамі „белавежанак”, якія сабралі прыгожы букет кветкавых вобразаў.***




# ПРЫГОЖЫЯ ПАРАСТКІ „БЕЛАВЕЖЫ”

**(працяг з Нівы № 6)**

Лірычная гераіня ўяўляецца спадчыніцай даўняга магутнага племені, тых часоў, калі зёлкі Радзімы служылі крыніцай трываласці, цялеснае і душэўнае моцы. Яна вартуе памяць роду, а верасы аберагаюць яе, быццам полымя грамнічнае свечкі — ратунак ад нягод, напасцяў:

Ад жніва да жніва –
мой абярог,
варта нядрэмная,
спадчына дрыгавічоў –
грамнічнае полымя
верасоў.

Размова пра фларыстычныя матывы паэзіі Надзеі Артымовіч патрабуе асобнае ўвагі, настолькі яны багатыя, адметныя, разнастайныя. Згадаем верш, пачатак якога — паэтычная аплікацыя з вядомага, што даўно стала класікай беларускай інтымнай лірыкі:

Пазаві мяне
Пазаві
Мы заблудзімся
ў хмельных травах.

Але калі Яўгенія Янішчыц стварыла лірычны гімн усёпераможнаму каханню, то верш бельскай паэткі ўспрымаецца цалкам інакш. Не надзея і вера ў магутнасць пачуцця як першаасновы паўнавартаснага існавання, а імкненне ўваскрасіць памяць, аднавіць страчанае, наноў прайсці шляхам кахання, ад самага пачатку:

Мы пасеем
Дзікія макі
Макі чырвоныя
Якіх даўно не бачылі.

Страсны покліч страчвае свой напал, гучыць роздумна, напаўняецца безнадзейнасцю, асабліва ў паўторы. Бо занадта вялікая адлегласць між рэальным і жаданым:

Пазаві мяне
Пазаві
Мы знойдзем
Кветку папараці
У якую
Мы хочам паверыць.

Паэтычныя радкі верша Міры Лукшы „Ціха ў вянок...” быццам шырокае палатно, на якім вытканы самыя пазнавальныя раслінныя маркеры роднай зямлі. Няспешная інтанацыя перадае няспешнасць, сцішанасць, стрыманасць і адначасова непарыўнасць прыроднага руху:

Ціха ў вянок плятуцца арэшнік,
валошкі, рамонкі.
Касачы залатыя галовы палошчуць
у праменні.
Корань дуба звязвае моцна глебу
роднай старонкі.
Птушка кранае чало чалавека ў маленні.

Графіка ў кнізе Лідзіі Маліноўскай „Жураўліная журба” належыць аўтарцы. Гэта мілыя фларыстычныя замалёўкі краявідаў нашай зямлі: шляху між прысадамі, птахаў на галінах дрэваў, але найбольш кветак. Бо і ў вершах паэткі, і ў паэтычных абразках галоўнае свет прыроды, яе рухі і гукі, шум і моўкнасць, цемра і святло. Абразок „Вечар” не быў бы поўным, калі б у ягоным вобліку не вымалёўваліся „ружовыя стакроткі і белыя галоўкі канюшыны. Духмянасць язміну, ляўконіі, півоніі прыносіць асалоду змярканню”. Самыя салодкія, самыя яркія, моцныя водары маюць менавіта гэтыя кветкі, што аздабляюць схіл вясны і зачын лета.

За вобразамі прыроднай красы, створанымі Лідзіяй Маліноўскай, пазнаецца асоба, якая чуйна ўслухоўваецца, углядаецца ў наваколле, што скрозь парэзана межамі. Між полем і лугам, лесам і пералескам. Ды не пра гэтыя межы зямныя, прыродныя згадваецца ў абразку „Мяжа”. Маецца на ўвазе зусім іншае, чалавечае — „падзел юначага падрастання і сталасці”. Вобраз не толькі ўпрыгожаны кветкамі: іх разнастайнасць, шматфарбнасць надае дадатковы сэнс, выклікае асацыяцыю з ручніком, што скіроўвае чытача на іншую ступень успрыняцця тэксту. Бо размова ўжо ідзе пра чалавечы, жаночы лёс. Пра чаканне, жаданне, пошукі шчасця маладой дзяўчынай, пра матчын клопат і спрыянне найлепшай долі для дачушкі: „Мяжа, поўная разнародных кветак-самасеек, — як ручнік, вышываны матчынымі рукамі ў дарогу паўналецця, дзе можам адшукаць кветку свайго лёсу”.

Не пераадоленая, не загубленая рухам часу вясновасць, маёвасць душы лірычнай гераіні ў вершы „Бягу” таксама перададзена праз фларыстычны вобраз: *апранутая ў адзенне з маладой ліствы — // бягу наперад*. Такая „вопратка” дадае лёгкасці, лёткасці, імклівасці руху, парыву, што не пакідае душы жанчыны.

Што да маладзенькіх паэтак-„белавежанак”, то фларыстычныя матывы ў іх лірыцы таксама не абыдзены ўвагай, але погляд скіраваны часцей у ягоныя, не заўсёды верныя вочы, углыб свайго пачуцця, а не на дрэвы, кветкі. Так, бясконца вар’іруючы нюансы нешчаслівага кахання, пакутуючы ад здрады, адзіноты, шукаючы і не знаходзячы ні яго, ні сябе, гераіня паэзіі Кацярыны Сянкевіч губляецца, блукае, быццам у зачараваным коле:

Вяртаюся,
іду.
Ідучы, ірву палявыя
кветкі з лістотай
дрэў.

Падавалася б, сэнс гэтага бясконцага руху — дайсці да сябе, да свае існасці, знайсці, скласці ў адно пройдзенае, убачанае, сабранае, сарванае, каб стварыць букет пачутага і прачулага. Але гэты пакутны шлях зацягвае, бы ў вір, становіцца самамэтай, не дае адхлання. Урэшце ўсё ізноў павяртаецца назад, каб ісці ў адваротным кірунку:

Прыйшла,
ёсць
і, ёсцевая, чытаю
ўвесь букет –
сляды слоў, што
прагнуць ісці
назад.

Такі складаны шлях, такі няпросты рух, такія кветкі і букеты трымае тая, што назвала сябе дачкою ружы, прыгожай, ды калючай.

У „Кроплях літар” Юстыны Каролькі знайшліся і фларыстычныя кроплі. У лакальнай прасторы гарадскога свету, на гаўбцы, выхаплена паэтычным зрокам чырвоная квецень. Гэта толькі замалёўка, вершаваны накід, ды ў ім спроба не проста зафіксаваць убачанае, а пераджыць, затрымаць, стварыць памятку кароткаму імгненню жыцця:

На балконным свеце
чырвона куст цвіце.
Як вартаўнік на варце
стаіць, не моргае вокам.

Пошукі адказаў на хвалюючыя пытанні, ужо пройдзены адрэзак жыццёвага шляху маладая паэтка перанесла на прыродныя з’явы, спрабуючы арыгінальна „ўпачуццёвіць” іх. І няхай не ўсё тут атрымалася дасканалым, не ўсе вобразы арыгінальныя, як, да прыкладу, збіты, банальны вобраз *кветкі кахання*, усё ж у цэлым карціна бачыцца даволі выразнай:

Я ў моры сумненняў
у пустыні пытанняў
гляджу на краявід жыцця
з кустоў радасці
кветкі кахання
зрываю штодня
Па лугах болю
па лясах жалю...

Знаходзім у кнізе своеасаблівы „ўвершаваны” букет, дзе кожная ружа іскрыцца не толькі дасканалай прыгажосцю, але і рознымі сэнсамі. Праўда, недарэчна ўжыта тут слова *флакон*. Аўтарка перабірае зрокам, пералічвае чырвоныя ружы, прамінаючы чацвёртую-шостую, бо пералік задоўжыўся б, бо галоўная апошняя, сёмая, якая ўвабрала ў сябе ўсё:

чырвоныя ружы
мігцяць у флаконе
адна — шчасцем
другая — каханнем
трэцяя — ціхмянай пакорнасцю
а сёмая — маім жыццём.

Згадаем яшчэ адно імя паэткі-філалагіні, што падае надзеі — Віялета Нікіцюк-Пэркоўская. Ёю менавіта праз фларыстычны вобраз угледжана, зразумета несувымернасць адмеранага чалавеку лёсам. Праўда, успрымаецца гэта без драматычнага надрыву, бо кветцы яшчэ доўга квітнець, радавацца і радаваць:

Я — расцвілая кветка,
якую палiваюць вядром болю
і лыжкай шчасця.

Розныя яны, паэткі-кветкі „Белавежы”, розныя іх лірычныя гераіні. Сур’ёзныя, удумлівыя, а часам усмешлівыя, жартаўлівыя. І, бясспрэчна, таленавітыя. У кожнай свой шлях у паэзіі. Кожная па-свойму бачыць красу, мае свае улюбёныя кветкі, што натхняюць, што нашэптваюць паэтычныя радкі. Хай ім красуецца доўга і шчасна!

**Альжбета КЕДА**

# Адышоў а. Вінцэнт Пугацэвіч — святар на цяжкі час

**У Белай-Падляшскай 2 лютага памёр самы старэйшы свяшчэннік Люблінска- Холмскай епархіі айцец мітрат Вінцэнт Пугацэвіч. Яму было 84 гады. Нарадзіўся яшчэ пры ІІ Рэчы Паспалітай у вёсцы Дзядковічы кадя Сямятыч. З дзяцінства далучыўся да жыцця Праваслаўнай царквы, таму натуральнай справай для Яго было паступленне ў Духоўную семінарыю, якую закончыў у 1954 годзе, а год пазней прыняў рукапалажэнне ў святарскі сан. Пастырскую службу давялося Яму несці ў асабліва складаных для праваслаўнай супольнасці ўмовах. Вайна нанесла вялікія страты. Змена межаў, перасяленні, рэпрэсіі, неспрыяльнае стаўленне ўлад да рэлігіі моцна расстроілі тадышні свет. Айцец Вінцэнт Пугацэвіч пачаў душпастырскую службу ва ўмовах, калі царкоўныя структуры трэба было будаваць з нуля, а вернікі былі раскінуты ў выніку прымусовага перасялення.**



http://lublin.cerkiew.pl

У гэты няпросты час займаўся Ён не толькі душпастырскай працай, але вымушаны быў наймацца да іншых работ, каб утрымаць сям'ю. Працаваў, між іншым, у рамонтнай майстэрні саўгаса ў Слупску, памочнікам электрыка ў Тарэспалі. Не цураўся ніякай работы, каб толькі прыдбаць неабходныя сродкі. Яго першым прыходам была Вулька-Выганоўская. Пасля быў пераведзены ў Кляшчэлі. У той час навучаў закону Божаму ў Саках і Чаромсе. З 1958 года стаў настаяцелем прыхода ў Тарэспалі. Давялося Яму ўкласці шмат высілку ў аднаўленне царкоўнага жыцця, моцна аслабленага ў выніку Акцыі «Вісла». Нягледзячы на складанасці, дасягнуў шмат поспехаў. У 1972 годзе атрымаў вышэйшую адукацыю на Хрысціянскай багаслоўскай акадэміі ў Варшаве.

Асаблівым месцам у яго пастырскай дзейнасці стала Белая-Падляшская. Быў пераведзены сюды 15 верасня 1983 года. Існуючы ў горадзе храм аказаўся надта малым і не даваў магчымасцей адпаведна задаволіць патрэбы прыхаджан. Па ініцыятыве бацюшкі пачалася будова новай царквы. Настаяцель сумеў згуртаваць вакол сябе многа прыхільнікаў, айчынных і замежных ахвяравальнікаў, дзякуючы якім сабраў неабходныя грошы і пераадолеў усе адміністрацыйныя праблемы (перш за ўсё згадаць трэба Нікіфара Кузьміцкага, ураджэнца вёскі Малыя Радванічы пад Брэстам, які пасля вайны жыў у ЗША). Сам таксама фізічна працаваў на будове храма. Памагаў мулярам, сталярам, тынкоўшчыкам, электрыкам, а сам нават праклаў частку электраправодкі. Усе тыя фізічныя дзеянні айцец Вінцэнт заўсёды называў «будовай жыцця». Кірыла-Мяфодзіеўскую царкву асвяціў 24 верасня 1984 года. Менавіта тады ўладыка Авель у кліравай ведамасці прыхода запісаў знамянальныя словы: «Сённяшні дзень стаў трыумфам артадоксіі на Падляшскай зямлі».

Айцец Вінцэнт Пугацэвіч займаў шмат пасад. Быў не толькі вікарыем (1955-1958), настаяцелем (1958-2005), але таксама благачынным Бяльскага благачыння (1989-2005). Апрача таго нёс пастырскую службу ў мясцовасцях, дзе не было ў дадзены час свяшчэннікаў, напрыклад у Носаве, Седльцах. У Белай-Падляшскай быў турэмным і шпітальным капеланам. Уключаўся таксама ў жыццё лакальнай супольнасці. На зломе васьмідзясятых і дзевяностых гадоў выконваў нават абавязкі раднага Ваяводскай рады нарадовай у Белай-Падляшскай. У 2005 годзе выйшаў на пенсію і з 1 снежня стаў рэзідэнтам прыхода, а яго справу працягнуў ягоны сын а. Андрэй Пугацэвіч. Айцец Вінцэнт далей праяўляў актыўнасць у жыцці праваслаўнай грамады, прымаў удзел у шматлікіх падзеях, нёс душпастырскую службу ўсюды і заўсёды там, дзе была такая неабходнасць. За сваю працу атрымаў шмат царкоўных і свецкіх узнагарод.

Бацюшка Вінцэнт застанецца ў памяці людзей па прычыне сваіх шматлікіх дасягненняў. Яго незвычайна станоўчае стаўленне да свету ўплывала на іншых. Сустрэчам з Ім спадарожнічалі жарты, паколькі ведаў як важнымі для чалавека з'яўляюцца пазітыўныя адносіны да жыцця. Даследуючы мінулае праваслаўя ў нашым рэгіёне я ездзіў да Яго, не раз з маімі дзяцьмі. Малыя сыны, які прысутнічалі ў шматгадзінных размовах, не стамляліся і пазней часта пыталі, калі зноў паедзем да гэтага «файнага, вясёлага бацюшкі». Быў Ён надзелены многімі станоўчымі рысамі, не раз уражваў сваімі паводзінамі. Калісь, будучы ў Яго, хацеў я выпісаць з кнігі адну фразу. Ён спыніў мяне, сказаўшы: «Няма чаго выпісваць. Трэба чытаць» і падарыў мне тое

працяг ☞



# http://doika.falanster.by

Час ад часу ў ініцыятыўных людзей узнікаюць ідэі зрабіць нешта для грамадства. Аднак для іх рэалізацыі няма грошай — уласна ініцыятыўныя людзі іх не маюць, а патэнцыйныя спонсары не згодныя адносна вартасці дадзенай задумкі. І тады на дапамогу могуць прыйсці разнастайныя краўндфандынгавыя інтэрнэт-пляцоўкі, дзе, апісаўшы сваю ідэю і пазначыўшы колькасць грошай для яе ўвасаблення, можна папрасіць інтэрнэт-карыстальнікаў ахвяраваць нейкую суму на рэалізацыю ўзніклага ў галаве праекта.

Варта адзначыць, што апошнім часам такія інтэрнэт-пляцоўкі сталі даволі папулярнымі ў Беларусі. І спосабы магчымага пералічэння грошай на карысць той ці іншай задумкі цэлы час удасканальваюцца. Адным з прыкладаў такіх пляцовак можна лічыць так званую „Дойку” (Doika), якая месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://doika.falanster.by.**

Галоўная старонка сайта, па сутнасці, ёсць адзінай. Інтэрнэт-бачына зроблена такім чынам, што змест пазначаных уверсе рубрык можна знайсці на галоўнай старонцы, пракруціўшы колка мышкі, нават не клікаючы на пазначэнне выбіраў на гэтыя рубрыкі. Але галоўная інфармацыя, якая тлумачыць што такое Doika, знаходзіцца ў самым пачатку галоўнай старонкі пад фотаздымкам з каровай, якая пасвіцца на лузе.

„Кампутарная праграма, якая ўсталёўваецца на ваш сайт і дазваляе вам збіраць ахвяраванні ад наведвальнікаў праз картку. Doika — гэта новы падыход у фандрэйзінгу беларускіх некамерцыйных грамадскіх арганізацый”, — тлумачыцца там. Гэта значыць, што цяпер для збору сродкаў для рэалізацыі сваёй задумкі дастаткова размясціць на сваім сайце дадзеную праграму і тады цікаўны карыстальнік, калі захоча падтрымаць вас грашыма, некалькімі маніпуляцыямі зможа пералічыць вам нейкую суму грошай.

Паводле сайта European partnership. Civil society facility, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://ideas.eapcivilsociety.eu, арганізацыі грамадзянскай супольнасці ў Беларусі пастаянна сутыкаюцца з недахопам сродкаў, што ставіць пад пагрозу іх устойлівае развіццё і робіць іх залежнымі ад аднаго ці некалькіх буйных донараў. Таму, паводле актывістаў ініцыятывы „Лічбавая майстэрня” беларускай арганізацыі Falanster, модуль для прыёму ахвяраванняў Doika дапаможа вырашыць гэтыя праблемы і дасць магчымасць грамадскім арганізацыям, зарэгістраваным у Беларусі, незалежна збіраць сродкі на сваіх уласных сайтах, без прыцягнення пасрэднікаў і без дадатковых сэрвісных плацяжоў.

„Doika — гэта рашэнне з адкрытым зыходным кодам, якое можа быць устаноўлена на вэб-сайце любой арганізацыі, незалежна ад сістэмы кіравання кантэнтам (CMS) сайта. З дапамогай сістэмы анлайн-плацяжоў з выкарыстаннем банкаўскай карты арганізацыі змогуць збіраць членскія ўзносы, ахвяраванні на статутную дзейнасць або на свае праекты: мерапрыемствы, кампаніі, дабрачынныя акцыі і г.д”, — адзначаецца там.

Сапраўды, пералічыць грошы з карткі на рэалізацыю ўпадабанага праекта зусім не складана — хопіць некалькі клікаў, каб грошы пайшлі ініцыятарам. Таму хутчэй за ўсё „Дойку” чакае папулярная будучыня. Сёння, паводле інфармацыі на дадзеным сайце, гэту праграму ўсталявалі на сваіх інтэрнэт-рэсурсах сем ініцыятыў.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара



# 25 гадоў таму
## Беларусь дэбютавала на зімовых Алімпійскіх гульнях

Чвэрць стагоддзя таму ў нарвежскім Лілехамеры Рэспубліка Беларусь дэбютавала на зімовых алімпійскіх гульнях як суверэнная дзяржава. Гэта была сямнаццатая ў гісторыі свету „белая” алімпіяда. Да гэтага беларусы толькі эпізадычна ўдзельнічалі ў зімовых алімпіядах у складзе зборных Савецкага Саюза.

Першапраходцам стаў канькабежац Эдуард Матусевіч — на алімпіядзе 1964 года ў аўстрыйскім Інсбруку ён заняў шостае месца. Праз чатыры гады ў Грэноблі (Францыя) Матусевіч быў восьмым.

Першы „беларускі” медаль, бронзавы, выйграў на алімпійскіх гульнях 1988 года ў Калгары (Канада) канькабежац Ігар Жалязоўскі — ён заняў трэцяе месца на дыстанцыі 1000 метраў. На форуме 1992 года ў французскім Альбэрвілі Яўген Рэдзькін, які прадстаўляў Беларусь, здабыў першае золата — за перамогу ў біятлоннай гонцы на дыстанцыі 20 кіламетраў. Іншы біятланіст, Аляксандр Папоў, стаў сярэбраным прызёрам у складзе каманды СССР у эстафеце.

Адкрыццё алімпіяды ў Лілехамеры адбылося 12 лютага 1994 года, а ўжо на наступны дзень спартоўцы выйшлі на старт. Беларусь упершыню ў гісторыі выступала самастойнай камандай, а таксама ўпершыню (і, на жаль, пакуль адзіны раз) пад дзяржаўным бел-чырвона-белым сцягам. Беларусь на тых гульнях прадстаўлялі ажно 32 спартоўцы: 10 біятланістаў, 9 лыжнікаў (!), 5 фігурыстаў (!), 4 фрыстайлісты, 2 канькабежцы, і па адным спартоўцу ў лыжным двухбор'і і скачках на лыжах з трампліна.

18 лютага 1994 года канькабежац Ігар Жалязоўскі выйграў серабро на сваёй каронннай дыстанцыі 1000 метраў — гэта быў якраз першы алімпійскі медаль у суверэннай гісторыі Беларусі. Чэмпіёнам у тым спаборы стаў амерыканец Даніэль Янсен. Кар'ера ўраджэнца Оршы Ігара Жалязоўскага была дастаткова яркай. Ажно пяць разоў ён станавіўся чэмпіёнам свету (1985, 1986, 1989, 1991 і 1993 гады), двойчы (у 1992 і 1993 гадах) выйграваў Кубак свету ў спрынтарскім шматбор'і. Пасля таго ж, як Жалязоўскі закончыў кар'еру, у айчынных мужчынскіх каньках суцэльная пустка.

23 лютага 1994 года біятланістка Святлана Парамыгіна выйграла сярэбраны медаль у спрынтарскай гонцы на 7,5 кіламетраў. Апярэдзіць Парамыгіну здолела толькі прадстаўніца Канады Мірыям Бедар, якая паказала вынік лепшы ўсяго на 1,1 секунды. Бронзавай прызёркай тады стала ўкраінка Валянціна Цэрбе. Дадам, што гэта быў першы ў гісторыі „суверэнны” медаль для Украіны. Біятлонная кар'ера Парамыгінай была вельмі паспяховай. Акрамя поспеху ў Нарвегіі на алімпіядзе, яна ў тым жа 1994 годзе выйграла Кубак свету ў агульным заліку. Таксама тройчы на розных дыстанцыях (у 1990, 1991, 1994 гады) станавілася чэмпіёнкай свету. А пасля завяршэння кар'еры паспяхова працавала журналісткай і ў газеце, і на тэлебачанні.

У выніку па колькасці і вартасці медалёў Беларусь у Нарвегіі заняла ў неафіцыйным камандным заліку 15-е месца з 67 краін-удзельнікаў. Гэта было дастаткова значным дасягненнем для зборнай, якая дэбютавала на белых алімпіядах. Пасля былі новыя беларускія чэмпіёны і прызёры ў японскім Нагана, амерыканскім Солт-Лэйк-Сіці, італьянскім Турыне, канадскім Ванкуверы, расейскім Сочы, карэйскім Пхенчхане. Але Лілехамер-1994 стаў сапраўдным суверэнным пачаткам і пунктам адліку.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

выданне, затым дадаў яшчэ некалькі кніг, кажучы, што трэба іх усіх прачытаць, каб зразумець. Варта адзначыць яшчэ адну важную Яго рысу. Вялікую ўвагу адводзіў Ён лакальным звычаям і неабходнасці размовы з вернікамі на такой мове, на якой яны жадалі, што было выяўленнем Ягонай пашаны для традыцыі.

Увесь жыццёвы шлях айца Вінцэнта Пугацэвіча паказвае, што быў Ён святаром на цяжкі час, які аднак не надломліваў Яго, толькі вёў да пераадольвання супярэчнасцей. Тым больш, што нёс Ён службу там, дзе праваслаўная грамадскасць у XX стагоддзі падвяргалася цяжкім выпрабаванням і выклікам, а цяпер развіваецца. У час пахавальных урачыстасцей (4-5 лютага) прагучала шмат знамянальных слоў развітання. Прыгадваліся заслугі а. Вінцэнта Пугацэвіча і Яго спецыфічны падыход да жыцця. Перш за ўсё прывесці трэба словы ўладыкі Авеля, які сказаў: «Гуртаваў Ён вакол сябе людзей, нягледзячы на іх погляды, рэлігію. Проста ў яго было адкрытае сэрца для кожнага». Падобным чынам ацаніў Яго айцец мітрат Андрэй Лось, кажучы: «Яго душпастырскі шлях не зводзіўся да службы ў царкве. Гэта ж Яго дом, які ўчыніў адкрытым для кожнага чалавека. Кожны, хто ўваходзіў сюды, хаця быў госцем, адчуваў сябе быццам дома, паколькі чакалі яго пачастунак, гасціна, змястоўная размова». Такім айцец Віцэнт застанецца ў памяці вернікаў — адкрыты, добразычлівы, радасны, шчыры ў веры...

Адам БОБРЫК

## Мой сардэчны прыяцель

Цяжка дажываць у адзіноцтве старэчы, пры тым хваравітаму. У народзе кажуць: «Свет не без добрых людзей». Заўжды памогуць. Так і ў мяне зараз. Суседзі з абодвух бакоў ветлівыя, спагадлівыя. Адзін сметніцу з адкідамі на вуліцу да аўтамабіля выставіць, іншы зойдзе ў дом ды загану ва ўстаноўцы цэнтральнага ацяплення паправіць. Майстравы чалавек. Ды і суседачкі сапраўдныя хрысціянкі. Старэчу закупку ў краме зробяць, панадворак прыбяруць. За гэта ім сардэчная падзяка. У суботу, 9 лютага, забарахліла ўстаноўка цэнтральнага ацяплення. Помпа не дзейнічала і ваду ў батарэю не пастаўляла.Тупік. Каго ў суботні выхадны вечар прасіць аб дапамозе? Дачушка ў Беластоку некампетэнтная, аказалася бездапаможнай. Параіла неяк прачакаць ноч ды ранкам пашукаць майстра. Але я не склаў рук. Няўжо сябры не выручаць? І ўспомніў у той момант сардэчнага прыяцеля з Чаромхі-Станцыі Януша Ліпінскага, мясцовага прадпрымальніка, нотабена гідраўліка, майстра на ўсе рукі. Патэлефанаваў яму пятнаццаць хвілін пасля дваццатай гадзіны. Калі высветліў яму праблему, сябра сказаў: «Зараз не магу, заняты. Дамашнія праблемы. Заўтра выязджаем з удзельнікамі настольнага тэніса ў Цехановец на турнір. Прытым у нядзелю пахаванне пенсіянеркі са Ставішчаў, Валянціны Кердалевіч, якая сакратаром гміны працавала. Ці заўтра а восьмай зранку магу заехаць?». Камень з сэрца зваліўся... Ноч прадрамаў, апрануты ў цёплае адзенне, прыкрыты ваўняным пакрывалам. А наступнай раніцы перад восьмай сябра Ліпінскі пад'ехаў, устаноўку агледзеў ды загану вокамгненна паправіў. Вось, што значыць прафесіянал. Ды заплаты не патрабаваў. Гэта сапраўдны прыяцель, на якога можна спаслацца. Такія не падводзяць. У іх «слово дороже денег». Гэта не ўсё. Януш Ліпінскі з'яўляецца радным, ініцыятарам шматлікіх грамадскіх ідэй ды важаком чаромхаўскай групы настольнага тэніса. Але гэта іншая тэма для допісу.

Уладзімір СІДАРУК

## Небяспечна перасякаць чыгунку

У Плянце Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета быў чыгуначны вакзал. Тут былі пачакальня, білетныя касы і буфет для пасажыраў. Чыгуначнікі мелі сваю святліцу. Калі перасталі ездзіць пасажырскія паязды з Гайнаўкі ў Семяноўку і далей у Цісоўку, тады ліквідавалі прыгожы драўляны вакзальны будынак пачакальні і бюро. Развінцілі і забралі рэйкі і шпалы з двух манеўровых пуцёў, табліцы з назвай вакзала, лавачкі, якія стаялі на перонах, слупы і лямпачкі электраасвятлення перонаў ды вакзальнай пляцоўкі. І тут стала пуста і глуха.

Ужо ідзе чацвёрты год як цераз Плянту пачалі ездзіць паязды з таварнымі вагонамі з Чаромхі ў Семяноўку. Зараз рух паяздоў з кожным годам большы. Не ўсе яны затрымліваюцца ў Плянце. Але часта бывае, што ў Плянце расчапляюць вагоны і лакаматывы пераганяюць з аднаго пуці на другі, на г.зв. манеўровай пляцоўцы з раз'ездамі і затым счапляюць лакаматывы з другімі вагонамі. І вось уночы пляцоўка — ажно жах — неасветленая! Неасветленыя і пероны колішняга вакзала. Адкуль вядома машыністам поезда ехалі яны ці не ехалі цераз Плянту. Бо тут ні адной дошкі з назвай мясцовасці.

Часам ноччу поцемку пераходзяць цераз існуючыя тры пуці жыхары з адной часткі вёскі Плянта ў другую частку ды пераносяць ровары або дзіцячыя каляскі над рэйкамі. У цемры гэта вельмі небяспечна. Чыгуначны пераезд з г.зв. дарожнымі запорамі ноччу добра асветлены і пад наглядам (яго закрываюць, калі едзе поезд і адкрываюць), але ён адсюль паўкіламетра.

Паязды ездзяць, калі іх накіруюць у адзін або другі бок. Пад цягнікі трапляюць аўтамашыны. Днём 30 студзеня гэтага года пад цягнік папала аўтамашына на шляху з Гайнаўкі ў Семяноўку — на чыгуначным пераездзе ў Бярнацкім Мосце (гэта недалёка ад Плянты).

(яц)

## Новы солтыс у Новым Ляўкове

7 лютага гэтага года адбыўся вясковы справаздачна-выбарны сход у самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Удзельнічаў у ім Яраслаў Галубоўскі, нававыбраны ў канцы мінулага года войт Нараўчанскай гміны. Сход вёў Славамір Смольскі. Справаздачу са сваёй працы на працягу апошніх чатырох гадоў склаў дасюлешні новаляўкоўскі солтыс Ян Целушэцкі. Ён падзякаваў аднавяскоўцам за супрацоўніцтва і давер, калі выконваў функцыю солтыса дванаццаць гадоў і заявіў, што далей не будзе вылучаць сваю кандыдатуру. Войт Яраслаў Галубоўскі пазнаёміў, што новае ў працы Гміннай управы ў Нараўцы, аб кадравых зменах і напрамках дзейнасці на пасадзе кіраўніка гміны для дабра жыхароў гміны. Як заўсёды на такіх вясковых сходах, так і гэтым разам было шмат розных пастулатаў і пытанняў да войта.

Новаляўкоўцы выбралі солтысам адзінага кандыдата Артура Харкевіча. У склад салэцкай рады ўвайшлі Міраслаў Галубоўскі, Рафал Харкевіч, Барбара Стоцкая, Нэля Харкевіч і Ян Целушэцкі (сын Сяргея).

У канцы сходу ўступаючы солтыс павіншаваў новага солтыса з выбарам, зычыў яму поспехаў у дзейнасці для дабра ўсіх жыхароў вёскі ды ў прысутнасці войта перадаў пячатку і чырвоную дошку з надпісам вялікімі белымі літарамі „SOŁTYS”.

(яц)

## 17.02 — 23.02

**(22.03. — 20.04.)** 17-20.02. у пары можаш пачаць пакаваць валізкі; лепш устрымайся, варта яшчэ паразмаўляць. Калі засяродзішся на працы, а не на фірмавых гульнях, пазбудзешся клопату 18-20.02. Дзякуючы дробным рашэнням пакажацца вялікі плюс на рахунку. У жыцці ўвядзі разнастайнасць, асабліва ў харчах. Каля 21.02. цяжкасці дагаварыцца з калегамі. Не далівай алівы ў агонь. Добра пакажашся ў кампаніі. Нічога не падганяй.

**(21.04. — 21.05.)** Лепшае здароўе, больш аптымізму і добрай энергіі. Да 19.02. файныя рандэву. Знаёмствы наладжаныя 16-20.02. будуць стабільнымі і трывалымі. Адчуеш павеў вясны; можаш рыхтавацца да веласіпеднага сезона. 21.02. (да 25.02.) вышукванне добрых фінансавых нагод. Найгоршы твой вораг — прыхаваная злосць да іншых.

**(22.05. — 22.06.)** 18-20.02. можаш адчуваць разгубленасць і сам не ведаць, чаго хочаш. 21-23.02. можаш апынуцца ў нявыгаднай сітуацыі. З 22.02. (да 24.02.) можаш знайсці прапаўшую рэч. Зоркі выцягнуць цябе з хаты. Апынешся там, дзе будзе цікава і сустрэнеш незвычайных людзей. Можа ўдацца цікавы праект (абдумай) і прынесці немалы прыбытак 21-23.02. Пільнуй нататак і запісак, каб не ўкраліся туды памылкі 18-20.02.; правярай мейлі.

**(23.06. — 23.07.)** Да 19.02. можаш закахацца, з узаемнасцю. 18-22.02. найлепшы час для новых ідэй і рашэнняў; не пакінуць цябе энергія і пачуццё гумару, а ўсё зробіш прыпяваючы. Прыкмеціш, што хтосьці з твайго атачэння патрабуе дапамогі, дапамажы. Выйдзі да людзей, асабліва пасля 21.02. Трымайся далёка ад хітрых і хваравіта зайздросных. Але 17-20.02. можа ахапіць цябе паралізуючая нясмеласць і разгубленасць. Больш варушыся.

**(24.07. — 23.08.)** 16-20.02. могуць дакучаць табе сумныя думкі. 18-20.02. можа паказацца шанц, які канчаткова можа аказацца вялікай памылкай. Не прыглушвай эмоцый. 18-20.02. канфлікты могуць выбухнуць, што пакіне ваша жыццё ў руінах. Трохі часу правядзеш у чарзе да лекара. З 22.02. не зможаш зрабіць усяго; засяродзься на найважнейшым.

**(24.08. — 23.09.)** 18-20.02. многа любові, чуласці, эмпатыі. Для самотных 18-20.02. цудоўны падарунак — хтосьці ў вас закахаецца! На працы можаш стаць на чале нейкага праекта. Файная сямейная імпрэза каля 19.02. З 22.02. (да 24.02.) будзеш мець шанц паправы зробленых калісь памылак. Кан'юнкцыя Меркурыя з Нептунам 18-20.02. можа ўвесці цябе ў зман. 21-23.02. магчымая бура ў фірмавай шклянцы вады.

**(24.09. — 23.10.)**. 17-20.02. магчымыя фінансавыя праблемы; не рызыкуй. Да 20.02. можаш заімпанаваць шэфу спакоем, рашучасцю і сэнсоўнасцю ў нервовых сітуацыях. З 21.02. (да 25.02.), калі думаеш пра змены, можа паявіцца неспадзяваны шанц. Калі ўсё добра, нічога не змяняй. Голас маюць перш за ўсё твае інстынкты (незалежна ад узросту!). Эйфарычны настрой. Рамантыка, калі нават быў у цябе кепскі досвед.

**(24.10. — 22.11.)** 17-19.02 разлічвай на рамантычныя жэсты. 18-20.02. слухай інтуіцыі, не заблудзішся. 16-20.02. Скарпіён з I дэкады пазнаёміцца з сардэчным аднадумцам. Рэнесанс у пачуццях. 17-19.02. можаш атрымаць заручальны пярсцёнак. З 21.02. лепш на цябе глянуць асобы дасюль непрыхільныя. Спакойна адчакай, пакуль канкурэнцыя не выпстрыкаецца. Юпітар прыцягне да цябе шчасце і шчаслівыя выпадкі — шукай шчасця ў латарэі і ў падарожжы.

**(23.11. — 22.12.)** 18-20.02. частка радні можа паставіцца супраць цябе. 20-22.02. правізорныя рашэнні і дарогі напрасткі могуць цябе многа каштаваць. Калі маеш кагосьці на воку, 17-20.02. пераканаешся ці варта працягваць адносіны. Нагоды змен жылля ці рамонту, якія паявяцца 18-20.02., не такія цудоўныя, як здавалася. Правярай усе кошты, пакуль падпішаш. Стральцы з III дэкады — маеце шчаслівую руку да фінансаў.

**(23.12. — 20.01.)** 18-20.02. наладжванне каштоўных кантактаў, афармлянне спраў ва ўстановах. Пераможаш перашкоды. 17-19.02. рамантычная атмасфера, прызнанні. З 22.02. шанцы развою, павышэнне кваліфікацыі, службовая паездка. 18-20.02. прыйдзецца заняцца справамі, у якіх не вельмі разбіраешся; дасі рады, пачытаўшы ці параіўшыся ў інтэрнэце (зрабіць курсы анлайн). Не адмаўляйся ад прапаноў і магчымасцей 18-20.02. 17-20.02. набудзеш рэчы на доўгія гады.

**(21.01. — 19.02.)** Не абяцяй сабе зашмат 21-23.02. Някепская форма. 19-21.02. пераканаешся, што далей з некаторымі знаёмствамі. Не колькасць адносін лічыцца, а іх якасць. Інвестуючы, трымайся абранага шляху. Спакой і цярплівасць прынясуць табе прыбытак. 17-20.02. нагода змяніць штосьці ў сваім стылі жыцця.

**(20.02. — 21.03.)** 17-20.02. кепскі момант на асабістыя і фінансавыя рашэнні. 18-20.02. можаш стаць ахвярай плётак, інтрыг і скрытных гульняў. 17-19.02. час на любоўныя сустрэчы і падарожжы. 21-23.02. укусіся ў свой язык і не давай парад. 18-20.02. запрасі сваякоў і добра ўгасці. 21-23.02. на працы нервова, але справішся. 17-20.02. лепш трымайся за кашалёк.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. элементарная адзінка інфармацыі = 21 _ 9 _ 7 _;
2. прыкрыццё пасудзіны, скрынкі = 11 _ 12 _ 14 _ 15 _;
3. орган зроку = 16 _ 8 _ 19 _ 20 _;
4. жонка Адама = 5 _ 3 _ 4 _;
5. Пётр, расійскі філосаф (1794-1856) = 13 _ 17 _ 22 _ 23 _ 24 _ 25 _ 18 _;
6. шкло ў аконнай раме = 6 _ 2 _ 1 _ 10 _.

(ш)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 3 нумара**

Асака, выспа, жыд, ібіс, Ной, хакей, цар, Ціса, Яга.

Рашэнне: **Сцеражыся ціхага сабакі і спакойнай вады**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# Дэльфы:
## пуп і вантробы свету!

Стадыён у Дэльфах

**(працяг з «Нівы» № 5)**

Грэцкі мужык — пан ліры і скокаў! Так намякаюць культурныя штампы. У штодзённым жыцці такога не відаць. Наадварот, звычайны грэк засяроджаны і задуменны...

Праўда, калі ўлічыць асаблівасць сучаснай грэцкай музыкі, прызваныя рысы характару вельмі дарэчы. Грэцкая музыка здзіўляе людзей са свету. Усюды, у публічнай прасторы, гучыць адзін від музыкі: сольныя напевы са старажытнымі струннымі інструментамі: бузукі, гуслі, ліра, дуда, дудка, усякія флейты і ражкі. Іх змест і настрой наклікаюць рэха старажытнай Элады. Да таго грэцкая музычная сцэна, як у гады Гамера, здамінаваная мужчынскім полам. Магчыма, пра ўсё вырашае складанасць жанру. Песні, балады, нярэдка складзены з трыццаці або і больш строф (!). Яны неабходныя каб размаляваць фон для небанальнага сюжэта, дзе пра ўсё вырашае лёс. Кожная другая грэцкая песня — пра нешчаслівае каханне.

У дарозе на Парнас мы ўскараскаліся на сцэну дэльфійскага тэатра, які прытыкаў да руін святыні Апалона. Будоўля на пяць тысяч гледачоў з перспектывы сцэны паказалася камернай ды ўтульнай. Зусім інакш бачыцца яна з высі. Той самы тэатр напамінае ўжо гіганцкі, каменны «веер». Яго веліч і рытмічная канструкцыя ажно «гучыць» у казачнай панараме. Мяне з ходу зачаравала акустыка старажытнай будоўлі, дзе шэпты і сцішаныя размовы звінелі надзвычай чыста і энергетычна. Спявала душа. Я прыгадала, сугучную грэцкім, падляшскую баладу пра лёс і нешчаслівае каханне: *Олень по бору ходзіт*.

Яна сваім духам і філасофіяй падыходзіла да часу, калі ў Дэльфах ладзілі піфійскія ігрышчы ў гонар Апалона.

* * *

Спачатку ігрышчы арганізавалі кожныя восем гадоў, аднак іх папулярнасць прымусіла скараціць тэрмін і ладзіць як алімпійскія гульні кожныя чатыры гады. Святкаванні трывалі восем дзён. У першы дзень ахвяроўвалі тры быкі і запрашалі ў тэатр, дзе ажыццяўлялі спектакль-відовішча пра змаганне Апалона з міфічным змеем Піфонам. У выніку перамогі грэчаскі бог запанаваў над пупам зямлі. Да таго па міфічнай гадзюцы ён атрымаў дар празорлівасці і прароччання. У памяць іх вайны было дадзена імя служкам Апалона. Згаданая няраз тут вяшчунка піфія пайшла менавіта ад Піфона.

У другі дзень ігрышчаў неабходна было «спазнаць сябе». Тады прадстаўнікі гарадоў і паломнікі-багацеі крочылі ў святочным шэсці ды дэманстравалі прынесеныя дары.

Шчодрых ахвяравальнікаў велічалі як герояў, вадзілі ў іх гонар карагоды і запісвалі іх імёны на сценах святога горада. Усе аднак чакалі трэцяга дня, калі згодна з парадкам і традыцыяй, адбываўся рытуальны пір. На гасціну рыхтавалі ажно сто быкоў (дзень раней ахвяраваных на прастолы хіотаў). У атмасферы гульбішча ўспыхала жаданне танцаў, мастацтва. Таму ў чацвёрты дзень у тэатры ставілі пастаноўкі, ладзілі спаборніцтвы спевакоў і турніры танцораў. Дапаўненнем свята лічылі спартовыя спаборніцтвы. Іх ладзілі наступныя дні на гарадскім стадыёне, які праіснаваў па сённяшні дзень. Старажытныя грэкі любаваліся ў гонках, гімнастычных акрабатыках, рукапашных змаганнях ці гонках квадрыг. Атмасферу спаборніцтваў мацавала віно, якое дазвалялі ўносіць на трыбуны. Тут якраз панаваў адваротны прынцып — віно нельга было вынесці са стадыёна. Карацей, усё, што прыдбалі гледачы і балельшчыкі, трэба было выпіць на месцы.



Ля дэльфійскага толаса



Вазак Аўрыга

Сярод спартсменаў найбольш велічалі гоншчыкаў квадрыг. У гонар пераможцаў піфійскіх ігрышчаў узводзілі помнікі. Даследчыкі-дэльфолагі заяўляюць пра дзясяткі соцень такіх фігур, якія разам з ваеннымі героямі выстаўлялі абапал святой дарогі. У дэльфійскім музеі захаваўся бронзавы помнік возчыка, вядомага ў літаратуры як Аўрыга з Дэльфаў. Ён, як даказваюць наведвальнікі, спазірае на сучасных «жывымі» вачыма.

* * *

Майк прыляцеў спецыяльна з Бостана, каб зірнуць у вочы архаічнаму Аўрыгу.

— Ну, паглядзіце, якія ў яго ідэальныя ступні, — Майк прапанаваў чамусьці глядзець на фігуру знізу. Сапраўды, калі глядзіш на кшталтныя ступні спартсмена, здаецца, што ў яго жылах пульсуе цёплая кроў. Ёсць разыходжанні наконт аўтара фігуры. Адны прыпісваюць яго Анатасу з Эгіны, іншыя Сатэдасу з Тэспіі, яшчэ іншыя Піфагору з Рэгіён. Разьба мае 1,8 метра вышыні і верагодна ўзнікла каля 478 года да нашай эры. У руках вазака лейцы квадрыгі. Першапачаткова воз быў запрэжаны ў чатырох коней (з усёй кампазіцыі захаваліся вазак і частка каня). Пераможца піфійскіх ігрышчаў, апрануты ў туніку, падпярэзаную на жываце. У верхняй частцы вопраткі старанна складзены закладкі і фалды, якія ўнушаюць рысы элегантнасці і адначасова заяўляюць пра стройнасць фігуры спартсмена. Зрок прыкоўваюць хвалі на прыгожай галаве спартсмена. Яны пазначаны сярэбраным дыядэмам, сімвалам перамогі. Аднак па адной фігуры і вопратцы ды рысах твару складана адгадаць пол спартсмена, прыпісаць адназначна яму мужчынскасць ці жаноцкасць. Гэтае пачуццё наклікае позірк фігуры, які зроблены з белай эмалі, інкруставанай чорным каменем.

— Ён глядзіць на нас неяк заўзята, як трэба глядзець пераможцу, — кажа — Майк, — але я гляджу на яго і думаю пра яго мяккасць і прыгожасць. Ну, як пра жанчыну! А вы, як гэта бачыце? — спытаў.

З Майкам, маладым амерыканскім камп'ютаршчыкам мы пазнаёміліся яшчэ пры дэльфійскім стадыёне. У гэтае месца пад пакрывам вяршынь Парнаса дабівалі адно лічаныя асобы. Майк хацеў увявіць свайго Аўрыгу ў жывым дзеянні, на стадыёне.

Позірк — важная рэч. Па тым, як хто глянуў, беларусы Падляшша шмат гадалі і прадказвалі, звычайна ў сваю карысць. Вось і для нас падказка з'явілася ў афінскім метро. У бок, дзе выстойвала наша жаночая кампанія, праціснуўся расхлістаны дэндзі. Дзядзька абярнуўся бокам ды прыпяваў сам сабе балады, у якіх гучала рэха старажытнай Элады. Спявак адчуў нашу ўвагу і яшчэ больш расспяваўся. А на развітанне ў знак удзячнасці ён зірнуў, быццам той вазак з дэльфійскага музея. Так, гэта быў зрок ацэненага належным чынам спевака і героя. Што ж... кожны бачыць што хоча.

І піша так пра неісную́чыя ўжо месцы і здарэнні.

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 07